—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
11
СТУДЗЕНЯ
1991 г.
№ 2 (3568)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



# ЧЫТАЙЦЕ

## ...КАБ НЕ ЎМЕРЛІ!

«...Нас, беларусаў, з даўніх часоў настойліва пераконвалі ў тым, што нашая мова вельмі падобная да рускай, і, маўляў, таму не адбудзецца анічога кепскага, калі яна паступова будзе замяняцца апошняй, і ўрэшце знікне зусім. Знішчальнікі нашае культуры, добра разумелі, што мова — душа народа...».

СТАРОНКА 5

## ВОРАН

Апавяданне Алеся Асіпенкі

СТАРОНКІ 8—10



## ПАСЛУХАЕМ МУЛЯВІНА!

Імправізацыя для пішучай машынкі з нагоды юбілею музыканта.

СТАРОНКІ 10—11.

## ЗДЫМАЮЦЬ... МУЗЫКУ ДУШЫ



У павільёнах «Беларусьфільма» здымаецца фільм па апавяданні Ф. Дастаеўскага «Вечны муж».

СТАРОНКА 11

Сібірскі дзённік:

## ДА ЗЕМЛЯКОЎ, ЗА 4000 КІЛАМЕТРАЎ...



«Далёка Сібір ад Беларусі. Гэтую далячынь адчуваеш нават у наш век, пры сённяшніх хуткасцях, калі за некалькі гадзін лёту цябе перакідваюць у чужы, што за светам, край, пра які дагэтуль ты толькі чытаў ці чуў ад людзей. А бывалі ж іншыя часы: ні самалётаў, ні цягнікоў, ні аўтобусаў. Толькі конна ды пешшу можна было адолець тысячы вёрстаў. Але нішто не спыняла людзей — адольвалі гэтыя доўгія вёрсты, пакідаючы, часта назаўсёды, наседжаныя мясціны, родных і дзедавыя магілы. Беззямелле, беднасць гналі мільёны сялян з радзімы, прымушалі перабірацца туды, дзе зямлі было ўволю, дзе, верылася, гаспадар можа разгарнуцца на поўную сілу...».

СТАРОНКІ 13—15.

## «ГУЛЬНЯ Ў КАРТЫ»—НЕБЯСПЕЧНАЯ

У газетах суседняй Літоўскай Рэспублікі час ад часу з'яўляюцца карты, што ўтрымліваюць ладны кавалак тэрыторыі БССР. Надрукавана такая карта і ў адным з нумароў «Голоса Литвы», які наш аўтар набыў у самым цэнтры беларускай сталіцы...

СТАРОНКА 16.



# Ліцэй адкрыўся на Каляды

Даўно заўважана: дарослыя, салідныя людзі, трапіўшы выпадкам у школу, у дзіцячую аўдыторыю, пачынаюць паводзіць сябе нязмушана і раскавана. Мабыць, таму, што і самыя заслужаныя дзяржаўныя мужы сядзелі некалі за партай.

Вось і ў 187-й сярэдняй школе Мінска, на адкрыцці Беларускага гуманітарнага культурна-адукацыйнага цэнтра (куды ўваходзяць нядзельны ліцэй, кіна- і відэастудыі), празмерна афіцыйнай дыстанцыі паміж старшакласнікамі і ганаровымі гасцямі не адчувалася. Сярод жа гасцей былі першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевіч, міністр народнай адукацыі БССР М. Дзямчук, народны дэпутат БССР А. Трусаў, народны дэпутат Мінсавета І. Чарняўскі. Былі тут і такія вядомыя гісторыкі, як М. Ткачоў і старшыня гарадской рады ТБМ А. Грыцкевіч.

Кожны з іх сказаў некалькі прывітальных слоў стваральнікам і навучэнцам беларускага нядзельнага ліцэя.

— Гэта будзе навучальная ўстанова нетрадыцыйнага тыпу,—сказаў міністр М. Дзямчук,—і па сваёй накіраванасці, і па праграме, і па фінансаванні (Міністэрства адукацыі разам з Міністэрствам культуры рэспублікі — спонсары гуманітарнага цэнтра).

— Тое, што такі ліцэй створаны на 72 годзе існавання БССР — парадаксальны і недарэчны факт, — гаварыў С. Шушкевіч, які канчаў беларускую школу на пачатку 50-х. — Але давайце сёння без празмернага хвалявання і захаплення ўпарта і спакойна працаваць — аваладваць мовай, гісторыяй, культурай.

Ідэя стварэння беларускага гуманітарнага цэнтра каштоўная, перш за ўсё, тым, што яна нарадзілася знізу, а ў працэсе яе ўвасаблення знайшла падтрымку і дзяржаўных структур, сказаў А. Трусаў.

Прывітанне і падборку р[...] лігійнай літаратуры перадал[...] ліцэю настаўніца Беларуска[...] нядзельнай дзіцячай школкі Гомеля В. Цярэшчанка.

Паколькі адкрыццё цэнтр[...] ліцэя супала з надыходам К[...]лядаў, зусім дарэчы прагу[...]чалі са сцэны актавай зал[...] калядныя і іншыя народны[...] спевы ў выкананні фаль[...]лорнага ансамбля «Дзянні[...]ца». Гучала тут і музык[...] У. Пузыні, песні ў выкананн[...] барда А. Камоцкага. Завяр[...]шыўся невялічкі канцэрт ім[...]правізацыяй артыста І. Доб[...]рага.

— Свята святам, але на[...]чакае напружаная праца, —[...]нібы падсумаваў дырэкта[...] Беларускага гуманітарнаг[...] культурна-адукацыйнага цэн[...]тра У. Колас, звяртаючыс[...] да тых, дзеля каго ўсё і р[...]білася — будучых навучэн[...]цаў ліцэя.

6 студзеня ліцэісты пры[...]ступілі да заняткаў.

Наш кар.



**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# ...КАБ НЕ ЎМЁРЛІ!

КОЖНАЯ МОВА, як і кожны народ, мае свой уласны лёс. Узвышаўся народ — узвышалася і яго мова, гінула мова — знікаў народ. Канулі ў небыццё, услед за сваімі мовамі, полаўцы і печанегі, знікла з палітычных мапаў свету некалі магутная Прусія.

Нас, беларусаў, з даўніх часоў настойліва пераконвалі ў тым, што нашая мова вельмі падобная да рускай, і, маўляў, таму не адбудзецца анічога кепскага, калі яна паступова будзе замяняцца апошняй, і ўрэшце знікне зусім. Знішчальнікі нашае культуры добра разумелі, што мова — душа народа. Таму, каб знішчыць нас як народ, найперш трэба было знішчыць нашую мову.

Былі ў гісторыі беларускай мовы часы ўзлёту і заняпаду. А ў якім стане знаходзіцца яна сёння? У той час, калі беларуская мова абвешчана дзяржаўнай, знікаюць апошнія беларускамоўныя газеты, пакідае моладзь скарбонку беларускай моўнай культуры — вёску. Нават Вярхоўны Савет паказвае поўную непавагу да роднай мовы і культуры, і застаецца ў большасці сваёй рускамоўным. Што ўжо казаць пра партыйныя структуры. Тыя, хто ад самага пачатку ставіліся з непавагай да ўсяго роднага, свайго, і нават рабілі на гэтым кар'еру, і цяпер сядзяць у мяккіх крэслах, з якіх глядзяць на нашу мову як на нешта непатрэбнае, аджыўшае. Мабыць, гэтае янычарства ўжо ў іх крыві, бо з ахвотай яны падтрымліваюць рускую, польскую, мовы іншых нацыянальных меншасцяў, але не сваю родную. А аргументы старыя. Маўляў, шмат у нас людзей іншых нацыянальнасцяў і ім цяжка адразу навучыцца размаўляць па-беларуску. І каўбасы, кажуць яны, не большае ад гэтага, і жыць лепш не будзем, і багацейшымі не станем. Я паспрабую не пагадзіцца з імі і прывесці свае аргументы.

Я ЛІЧУ, ШТО ПАЧАЦЬ трэба менавіта з гэтага вось «падабенства» моў. Ці так падобныя нашыя мовы, як нас у гэтым хочуць пераканаць? Возьмем некалькі слоў і параўнаем. Вось слова, якое на першы погляд не мае ніякага адрознення, — слова «зіма». Зіма па-руску, зіма па-беларуску. Але паглядзіце, якія эпітэты надаў рускі народ сваёй зіме. Зимушка-зима, зима-красавица, матушка-зима, зима-колдунья і г. д. У беларускай мове гэтыя эпітэты да слова «зіма» не ўжываюцца. Гэта і зразумела: мову ствараў сам народ. У тыя часы, калі рускі народ стварыў сваю мову, ён чакаў зіму як збавіцеля. Мала які-вораг мог узімку прайсці праз заснежаныя маскоўскія лясы. Вось і была зіма «желанная». Багатыя на жывёлу лясы заўсёды маглі пракарміць, а зімой, па снезе, і звяра шукаць лягчэй. Вось і стала зіма «матушкой». А ў Беларусі, на скрыжаванні еўрапейскіх шляхоў, дзе з даўніх часоў перакрыжоўваліся інтарэсы поўначы і поўдня, усходу і захаду, зіма не магла выратаваць людзей ад вайны. Наадварот. Летам можна было ўцячы ў балота, якіх у нас шмат, а тутэйшыя людзі заўсёды мелі там патаемныя сцяжынкі. Зімой гэтыя балоты замярзалі, і ўцякаць не было куды. Не чакаў наш народ зімы як збавіцеля, і адлюстраваў яе ў сваёй мове такой, якой бачыў.

Гэтае параўнанне паказвае, што чалавек, які карыстаецца рускай мовай, падумаўшы слова «зіма», уяўляе яе зусім па-іншаму, чым беларускамоўны чалавек. Да адной і той жа з'явы ў іх розныя адносіны. Іх мовы нясуць у кожным слове код разумення сусвету, кожная свой, непаўторны, непадобны на іншыя. Кожнае слова нясе вялікую інфармацыю аб тым, як чалавеку ставіцца да той ці іншай з'явы. І беларуская мова нясе неабходную інфармацыю беларусу, руская — рускаму. Яна дапамагае чалавеку правільна зразумець тую ці іншую падзею, убачыць сусвет такім, якім неабходна яго бачыць. І чалавек, гледзячы на зоркі і сузор'і, успрымае іх зусім па-іншаму, чым той, што глядзіць на «звёзды» і «созвездия».

Калі мы падумаем «палач», у нас складваецца зусім іншае ўяўленне аб гэтым чалавеку, чым тады, калі мы думаем «кат». І гэтак кожнае слова. Вось вам і «падабенства». І цяпер, калі мы бачым, як беларускі Вярхоўны Савет складае законы на рускай мове, і толькі пасля іх перакладае на беларускую, можна з упэўненасцю заявіць, што, можа, гэтыя законы і найлепшыя, але ці для нас яны, бо ці змогуць увабраць у сябе нашы асаблівасці, нашу рэчаіснасць?

Таму можна зрабіць выснову, што наша мова, як і руская, мае свой уласны, непаўторны, не падобны на іншыя ход разумення свету. Яна была створана нашым народам, прайшла праз вякі і дайшла да нас як самая багатая спадчына, што пакінулі нам продкі. Па духу сваім яна не падобная на іншыя мовы і адпавядае толькі таму народу, які яе стварыў. Унутранаму стану кожнага народа можа адпавядаць толькі яго мова.

АЛЕ ЧАМУ МЫ ПАВІННЫ карыстацца толькі сваёй мовай? Можа, можна прыняць іншую мову, жыць пад яе уплывам і разумець свет так, як таго патрабуе яна? Асобнаму чалавеку можна, народу — не. Народ стварыў сваю мову пад уплывам існуючай рэчаіснасці, адлюстраваў у ёй сусвет такім, якім яго бачыў. І гэтае ўспрыманне рэчаіснасці адлюстроўвалася не толькі ў мове. Яно, ад дзядоў да ўнукаў, перадавалася праз генную памяць народа. Генная памяць народа, як і звычайная памяць чалавека, нясе яму інфармацыю аб сусвеце. З кожным пакаленнем яна ўзбагачалася і прыйшла да нас разам з мовай, як дзве адзінкі, якія падтрымліваюць і дапаўняюць адна адну, і не даюць адна адной загінуць. І вось там, дзе сутыкаюцца генная памяць, існуючая рэчаіснасць і мова (пры ўмове, што яны адпавядаюць адна другой), і ствараецца імунная сістэма народа, яго інстынкт да самазахавання. Калі ж гэты імунны трохкутнік пабурыць (напрыклад, знішчыць мову), то народ, як той чалавек, які страціў імунную сістэму, можа існаваць толькі пры спрыяльных умовах. Ён губляе здольнасць змагацца з бядой. Яскравы таму прыклад — Чарнобыль. Калі ўвесь свет ратуецца ад гэтай навалы, беларускі народ, якому пагражае смяротная небяспека, не можа згуртавацца для барацьбы з ёю. Людзі ратуюцца паасобку, бо ў кожнага ёсць свой уласны інстынкт да самазахавання, народ жа ў цэлым не згуртаваўся ў еднасць.

Людзі з больш-менш «чыстых» тэрыторый не ўспрымаюць гэтую бяду як сваю, беларускую, а як бяду нейкай асобнай часткі людзей з забруджаных зон. Да перасяленцаў ставяцца не як да сваіх братоў-беларусаў, а як да чужынцаў. Народ губляе ўсе прыкметы народа. Ды гэта і не дзіўна. Стварыць народ без агульнай мовы, якой павінны карыстацца ўсе, — немагчыма. Толькі мова, якая нясе сваё, агульнае для ўсяго народа разуменне сусвету, можа аб'яднаць людзей у еднасць, толькі яна можа ўвабраць у сябе думкі асобных людзей і даць ім адзіны накірунак, найбольш правільны і адпаведны гэтаму народу. Без яе хто зробіць гэта? Нават чарнобыльская бяда не аб'яднала людзей. Чужая мова, якая не адпавядае ні геннай памяці, ні нашай, беларускай рэчаіснасці, таксама не здольная гэта зрабіць. Хто ад гэтага губляе? Той народ, які здрадзіў мове сваіх бацькоў. Ён нават губляе здольнасць прыняць правільнае рашэнне. Уявіце сабе чалавека, які ўзімку выйшаў на вуліцу. Халодны балтыйскі вецер (існуючая рэчаіснасць) прадзімае да касцей, генная памяць нясе інфармацыю аб тым, што зіма не лепшая пара года для беларуса, а мова (маем на ўвазе рускамоўнага чалавека) гаворыць аб тым, што зіма «желанная». А ўявіце цэлы народ, які жыве ў такой супярэчнасці. І калі прыходзіць час рабіць выбар (ці гэта выбар прэзідэнта, ці шляхоў развіцця, ці палітычнай сістэмы), гэты народ амаль заўсёды робіць памылку. І таму кожнаму народу неабходна карыстацца менавіта сваёй мовай. Гэта жыццёва неабходна не толькі дзеля дабрабыту, бяспекі, але і дзеля таго, каб выжыць. Ні адзін народ, які страціў сваю мову, не застаўся на зямлі. Ён спачатку вымірае як народ, а пасля і фізічна, бо не можа жыць у гэтым свеце без сваёй імуннай сістэмы.

І, НАРЭШЦЕ: чаму адзінай мовай павінен карыстацца ўвесь народ, усе нацыянальнасці, з якіх ён складаецца? У межах адной рэспублікі можа існаваць толькі адзін народ, які, безумоўна, складаецца з людзей розных нацыянальнасцяў. У гэтых людзей, незалежна ад нацыянальнасці, адны праблемы, адны радасці. Адным словам, рэчаіснасць для ўсіх адна. Жывучы з гэтым народам, людзі іншых нацыянальнасцяў пачынаюць авалодваць ведамі гэтага народа, яго гісторыяй, яго жыццёвым вопытам, што і адкладваецца ў іх памяці, і перадаецца нашчадкам праз генную памяць. Што ж застаецца, каб стаць паўнапраўным жыхаром рэспублікі, часткай яе народа? Мова. Яна дазволіць убачыць свет так, як яго бачыць гэты народ. Толькі яна, мова, можа аб'яднаць усіх людзей, незалежна ад нацыянальнасці, у адзін народ, што жыццёва неабходна кожнаму. Ні запіс у канстытуцыі, ні ў дэкларацыі аб незалежнасці не могуць зрабіць гэтага. Людзі, не авалодаўшы мовай, так і застануцца асобнымі нацыянальнасцямі, партыямі, групоўкамі. Таму ў іншых краінах свету, каб атрымаць грамадзянства, абавязковая ўмова — дасканала авалодаць дзяржаўнай мовай гэтай краіны. Не авалодаўшы мовай, чужаземец не можа зразумець гэты народ, а народ яго. Кожны асобны чалавек, нацыянальнасць, этнас, і нават партыя, рух, маюць свае асаблівасці, але, аб'яднаўшыся адной мовай, у межах адной рэспублікі, яны дзейнічаюць як адзін народ, што неабходна для іх дабрабыту і выжывання. Амерыканскія немцы ваявалі супраць гітлераўскай Германіі, бо яны найперш амерыканскі народ, а ўжо пасля немцы. На жаль, у нас нацыянальныя меншасці гэтага не разумеюць.

І калі ў межах адной рэспублікі нейкая частка людзей не валодае мовай гэтай рэспублікі, гаварыць пра кансалідацыю — марна траціць час. Яе не будзе, бо людзі ўспрымаюць сусвет, адны і тыя ж з'явы, па-рознаму. Калі ж народ губляе мову, ён нейкі час яшчэ жыццяздольны за кошт моцнай геннай памяці. Але праз нейкі час, калі генная памяць не падтрымліваецца мовай, яна пачынае сцірацца. Уявіце сабе цэлы народ, які страціў памяць. Ён ужо небяспечны для іншых. Ён стане марыянеткай у руках тых, хто ім кіруе. Страціўшы з геннай памяццю апошнюю цягу да волі, гэты народ можна ператварыць у душыцеля чужой свабоды, небяспечнага для ўсяго свету, але вельмі патрэбнага для тыранаў і захопнікаў. Менавіта яны і зацікаўлены ў тым, каб стварыць такі народ. Адзін са шляхоў да гэтага — знішчыць мову. Вось і знішчалі яе ў нас, знішчаюць па сённяшні дзень.

МЫ, БЕЛАРУСЫ, *як і ўсе іншыя народы*, маем сваіх герояў і сваіх прарокаў. І кожны з іх пакінуў нам запаветы аб нашай мове. Кажуць, прарокі гавораць голасам Бога. Адзін з іх, наш нацыянальны герой, паэт-прарок Францішак Багушэвіч сказаў яшчэ 100 год таму: НЕ ПАКІДАЙЦЕ НАШАЙ МОВЫ БЕЛАРУСКАЙ, КАБ НЕ ЎМЕРЛІ! *Можа, гэта нас Бог папярэдзіў?*

**В. САЗОНАЎ.**

г. Гродна.

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# Балтыйска-Чарнаморскі саюз: за і супраць

Апошнім часам даволі актыўна абмяркоўваецца магчымасць стварэння Балтыйска - Чарнаморскага саюза. Мне хацелася б выказаць свой погляд на гэтую праблему.

Адна з сучасных тэндэнцый у свеце — стварэнне рэгіянальных палітычных суполак. У якасці *прыкладу можна прывесці* Еўрапейскую Супольнасць.

Аб'ектыўна Беларусь не можа існаваць без нармальнага эканамічнага саюза са сваімі суседзямі. Таму нельга не бачыць пэўных пераваг Балтыйска - Чарнаморскага саюза (БЧС) — у эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай, экалагічнай, тэхналагічнай і гуманітарнай сферах. Стварэнне такога саюза дазволіла б абараніць Беларусь ад памкненняў Цэнтра ўшчамлення яе інтарэсаў, сцвердзіць рэальныя *правы рэспублікі* на зямлю і нетры. Але пры гэтым павінна быць выразна агаворана прэзумпцыя абароненасці кожнай нацыі (і не толькі карэннай). БЧС павінен увасобіцца ў пэўных заканадаўчых, выканаўчых, кантралюючых актах і інстытутах.

Адначасова ўзнікае і шэраг сумненняў у жыццёвасці гэтай канструкцыі. Прынцыповае пытанне: стварэнне БЧС дыктуецца імкненнем закласці ў яго аснову новыя палажэнні, якія істотна розняцца ад існуючых у іншых рэспубліках (нават тых, якія найбольш актыўна рухаюцца наперад да палітычнай незалежнасці), ці гэта спроба замацаваць цяперашні статус рэспублік нейкім палітычным дакументам, свайго роду «Саюзным дагаворам» пяці? Зноў-такі, ці досыць радыкальным будзе «Саюз пяці»? Ці прадугледжвае ён права кожнага суб'екта на свабодны выхад з яго з атрыманнем статуса асацыіраванага ўдзельніка? Сёння гэта яшчэ далёка няясна.

Што гэта—шлюб па каханні? Наўрад. У нашым грамадстве няма сёння больш сур'ёзных праблем, чым праблемы эканамічныя і нацыянальныя. Але ці можна ажыццявіць палітычную ідэю БЧС, калі ўжо цяпер яго асобныя будучыя члены пачынаюць прад'яўляць адзін аднаму тэрытарыяльна-нацыянальныя прэтэнзіі? Ці адчуваюць ініцыятары стварэння БЧС рэальнае становішча спраў у велізарным рэгіёне, які налічвае 70 мільёнаў чалавек? Ці не занадта ідэалістычна глядзяць яны, напрыклад, на славянскі свет? Ён таксама вельмі неаднародны. Эканамічная, палітычная сітуацыі, скажам, на Беларусі і на Украіне неаднолькавыя. А што казаць пра рэспублікі Прыбалтыкі? Трэба ўлічваць усе паказчыкі — і эканамічныя, і сацыяльныя, і дэмаграфічныя, і этнічныя, і экалагічныя, і культурныя. У кожнай рэспубліцы сваё «прызванне», свой *накірунак*.

Думаю, што тут можа быць хутчэй эканамічны альянс, а не палітычнае аб'яднанне.

Канечне, немагчыма даць ідэальную мадэль будучай Беларусі. Але вельмі хацелася б, каб новая Беларусь будавалася на дэмакратычнай аснове. Толькі пры ўмове *дэмакратычнага* развіцця рэспублік здзейсніцца, магчыма, і ідэя Балтыйска - Чарнаморскага саюза.

**С. ПОЛЬСКІ,**
**прафесар Мінскага педагагічнага інстытута.**

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

## УМЕЛА ГАСПАДЫНЬКА ГАТАВАЦЬ...

**Янка Купала і Якуб Колас, Васіль Вітка і Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч і Васіль Хомчанка, Рыгор Барадулін і Барыс Сачанка, Валянцін Лукша і Вольга Іпатава, многія іншыя беларускія празаікі і паэты — аўтары гэтай кнігі з даволі празаічнай назвай «Чытанка для дзіцячага сада», выпушчанай выдавецтвам «Народная асвета». З'явілася яна як канкрэтнае падмацаванне прынятых у 1989 годзе грунтоўна перапрацаваных праграм для дзіцячых дашкольных устаноў з беларускай і рускай мовамі выхавання і навучання. Складзена В. Вячоркам, Н. Маскаленкай і П. Садоўскім у адпаведнасці з «Праграмай выхавання і навучання ў дзіцячым садзе (з беларускай мовай выхавання і навучання)».**

**Хоць назва і сапраўды сумнавата-метадычная, але, як кажуць, з твару вады не піць. Галоўнае — змест. Змест жа — удалы! Тут сабраны творы не толькі апрабіраваныя, а і малавядомыя, і новыя. Аўтары іх — таксама розныя: ад прызнаных дзіцячых пісьменнікаў да тых, што для дзетак пачалі пісаць нядаўна. Скажам, Сяржук Сокалаў-Воюш, Ганна Іванова і іншыя. Не абмінулі складальнікі і творы рускай, украінскай, літоўскай, латышскай, армянскай, польскай і англійскай літаратур, перакладзеныя на беларускую мову.**

**Выданне ў першую чаргу адрасуецца, як відаць з назвы, выхавацелям дзіцячых садкоў. Але тут і ўзнікае традыцыйнае «але». Трымае выхавацелька ў руках «Чытанку», дзіцячыя ручаняты так і цягнуцца да кніжкі. Толькі вось ці пацягнуцца? Ілюстрацый у хрэстаматыі няма. Ды і выдадзена кніжка так, што даваць дзецям яе небяспечна: паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа збрашураваў «Чытанку» прагрэсіўным спосабам, гэта значыць, на клеявой аснове. Аматары кнігі добра ведаюць, што гэта такое. Дастаткова неасцярожна мацней гартануць старонку, як астатнія пасыпяцца, бы ветрам падхопленыя.**

**Заўсёдная наша бяда: умела гаспадынька гатаваць, ды не змагла падаць...**

**К. ВЯРЭЙКА.**



## КАБ ПАМЯТАЛІ, АДКУЛЬ МЫ

**«Бацькаўшчына» — так назвалі ў выдавецтве «Юнацтва» свой новы гадавік. Першы яго выпуск, пазначаны 1990 годам, лёг на паліцы кнігарань рэспублікі напярэдадні Новага года.**

**Чытачы — у першую чаргу выданне адрасуецца дзецям сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту — знойдуць тут урыўкі з гістарычнага рамана Язэпа Дылы «На шляху з варагаў у грэкі», Яго ж гістарычную аповесць «У імя дзяцей» і сцэны з гістарычнай драмы «Падуанскі студэнт». Укладальнік С. Панізнік уключыў у гадавік і аповесці Уладзіміра Караткевіча «Сівая легенда» і «Ладдзя роспачы».**

**Да 500-годдзя Ф. Скарыны прымеркаваны артыкул В. Шматава «Урокі Скарыны».**

**Адкрываюць і завяршаюць гадавік артыкулы самога складальніка: «Бацькаўшчына светлая мая!» і «...Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы...»**

**У наступных нумарах «Бацькаўшчыны» — працяг публікацый, якія тычацца багатай гісторыі роднага краю.**

**Не лішне тут будзе нагадаць, што гістарычны зборнік пад назвай «Шляхам гадоў» выходзіць і ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Гадавікі гістарычнай праблематыкі плануюць рэгулярна выпускаць і іншыя рэспубліканскія выдавецтвы.**

**В. ЦЯРЭШКА.**

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

# «НЕ ПАНТЭОН, А КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ»

**У Беларусі апошнім часам выйшла шэраг выданняў энцыклапедычнага характару, якія атрымалі шырокі водгук не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. Думаецца, такі лёс напаткае і біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» ў шасці тамах. Ён падрыхтаваны супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР з дапамогай навукоўцаў рэспублікі і замежных краін. Выпуск слоўніка выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі мяркуе ажыццявіць у 1991—1996 гадах.**

**Пра новае выданне наш карэспандэнт гутарыць з доктарам філалагічных навук, пісьменнікам Адамам МАЛЬДЗІСАМ, які ў Іstытуце літаратуры ўзначальваў калектыў па падрыхтоўцы слоўніка.**

— Па-першае, хочацца адзначыць, — сказаў Адам Іосіфавіч, — што падобнае выданне на Беларусі выходзіць упершыню. Ва ўсіх жа цывілізаваных народаў ёсць аналагічныя слоўнікі. У палякаў, напрыклад, ажно тры. У адным з іх — «Вобраз польскай літаратуры» — змешчаны не толькі звесткі біябібліяграфічнага характару, але і вытрымкі з найбольш значных твораў пісьменнікаў. У Расіі выпускаецца «Слоўнік рускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя», выйшаў «Слоўнік кніжнікаў і кнігалюбаў Старадаўняй Русі. XI — першая палова XVI стагоддзя». Маюць слоўнік і ўкраінцы. У нас жа кожнаму, хто захоча вывучыць творчасць якога-небудзь літаратара, дэталёва прааналізаваць яе, неабходна самому шукаць звесткі ў архівах, бібліятэках. Зрабіць гэта часта не так і проста. Вазьму, здавалася б, просты прыклад. Аўтар паставіў сабе задачу — аб'ектыўна разгледзець прозу Кузьмы Чорнага 20—30-х гадоў. Але ж усіх матэрыялаў — у тым ліку і перыядычных выданняў — у рэспубліцы не захавалася. Неабходна ў такім разе звяртацца ў сховішчы Масквы, Ленінграда... У слоўніку ж патрэбную інфармацыю можна будзе атрымаць літаральна за нейкія пяць мінут.

**— Адам Іосіфавіч, каб хутка знайсці гэтыя звесткі, у слоўніку павінен быць зручны прынцып падачы матэрыялу?**

— Над гэтым мы думалі і вырашылі, што лепей за ўсё, калі артыкулы будуць размешчаны ў алфавітным парадку. Ад перыядызацыі літаратуры адмовіліся. Раней што атрымлівалася? Узяць творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага і іншых нашых вядомых пісьменнікаў. Іх даводзілася, прабачце, «рэзаць» ледзь не па жывому, каб раскласці «па палічках» — тое пісалася ў дакастрычніцкі час, а гэта—у паслярэвалюцыйны, савецкі... Цяпер у слоўніку, ведаючы патрэбнае прозвішча, адразу ўсё знойдзеш. На наша няшчасце, матэрыял, пакладзены ў аснову слоўніка, не такі і вялікі, але, тут ужо на шчасце, яго ўдалося размясціць у шасці тамах, кожны памерам недзе 90 уліково-выдавецкіх аркушаў.

**— І ў якім стане работа над слоўнікам?**

— Перад самым Новым годам мы, у інстытуце, закончылі працу над апошнім, шостым томам, і рэдагуем цяпер яго перад перадачай у выдавецтва... Першы ж том ужо набіраецца, вычытваецца карэктура. Другі — знаходзіцца ў выдавецкіх макетах. Прама скажу: гэта выдатна, што за выданне ўзялася «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя». Гарантаваны і паліграфічная якасць, і высокі навуковы ўзровень. Добра і тое, што рэдагуюць матэрыялы супрацоўнікі выдавецтва пад кіраўніцтвам Васіля Сцяпанавіча Семенякова — гэта якраз той калектыў, які працаваў над выпускам «ЭЛіМБела».

**— Ці не маглі б вы, Адам Іосіфавіч, крышачку падрабязней сказаць аб прынцыпе адбору кандыдатаў для артыкулаў-персаналій?**

— Матэрыял сабраны агромністы. Дастаткова сказаць, што ў шырокі ўжытак па сутнасці ўводзіцца больш за сто новых імёнаў. Раней пра іх нічога не было вядома, альбо гаварылася зусім мала. Упершыню будуць поўнасцю прадстаўлены ўсе рэпрэсіраваныя беларускія пісьменнікі, літаратары, якія жывуць у эміграцыі, пісьменнікі з Польшчы, а таксама яўрэйскія, рускія, польскія, лацінскія... Прымаліся пад увагу многія акалічнасці. Напрыклад, у слоўніку не значыцца Адам Міцкевіч, але ёсць Адам Плуг. Справа ў тым, што ў Міцкевіча няма твораў на беларускай мове, а Плуг іх пісаў. Тое ж самае тычыцца і Уладзіслава Сыракомлі. Ці яшчэ прыклад.... Галіна Егарэнкава жыла ў апошні час у горадзе Горкім (цяперашні Ніжні Ноўгарад), але стаяла на ўліку ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

Доўга думалі над крытэрыем адбору. Для жывых творцаў абавязковая ўмова — членства ў творчым саюзе. Увайшлі ў слоўнік і літаратары, якія, хоць і не члены саюза, але пра іх ёсць артыкулы ў «ЭЛіМБеле». Прадстаўлены і многія даследчыкі беларускай літаратуры, якія абаранілі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі, выдалі кнігі, але не члены СП Беларусі.

Для нежывых жа літаратараў асноўны крытэрый — след, які творца пакінуў у літаратуры. Так, Паўлюк Багрым, як вядома, застаўся па сутнасці аўтарам аднаго верша. Але як шмат значыць прозвішча яго для беларусаў! Зразумела, што П. Багрыму прысвечаны спецыяльны артыкул. Тое ж самае можна сказаць і пра асобных пісьменнікаў дваццатых — трыццатых гадоў, якія выдалі ўсяго па адным зборніку. Відаць, і дадатак да слоўніка будзе. Хоць на сённяшні дзень у ім каля 1200 персаналіяў, але нязварта забываць, што творчы працэс няспынны, у літаратуру з кожным годам прыходзяць новыя людзі, уступаюць у Саюз пісьменнікаў.

**— А цяпер, калі ласка, пра структуру пабудовы артыкулаў-персаналій...**

— Даецца падрабязная біяграфія, а затым — агляд творчасці. Імкнуліся пазбягаць эпітэтаў. Увогуле, ацэнка — рэч суб'ектыўная, тут можна ці «перасаліць», ці «недасаліць». Ды і трэба памятаць, што падобныя выданні не пантэон, а аб'ектыўная крыніца інфармацыі. Чаго хто варты — добра будзе відаць і з бібліяграфічнай часткі артыкулаў, дзе будуць названы ўсе кнігі аўтара, а таксама ўсе публікацыі яго ў газетах, збор-

# ...ЯК ДРЭВА БЕЗ КАРЫ

«Дзень добры, паэт!» — так назваў Ігар Шклярэўскі прадмову да першага паэтычнага зборніка Радзіслава Лапушына. Але нават калі б і не было гэтай змястоўнай прадмовы, вершы кнігі «Тры позіркі» гавораць самі за сябе. У іх паэзія будняў і будні ў паэзіі. «Снег прошел, и счастливый пес, пробегающий налегке, хлопья тающие пронес на дымящемся языке». Ці вось яшчэ: «А снег еще поскрипывает мартовский, отсвечивая синевой. И ножницы в парикмахерской, как ласточка, летящая домой». Проза паўсядзённасці паўстае тым фонам, што неяк спакваля, паступова вылучае і самога чалавека. Бытавыя падрабязнасці дапамагаюць адчуць, як спантанна ўсё адбываецца і ў той жа час як усё падначалена плыні часу.

Ці не самы характэрны з падобнага шэрагу гэты безназоўны верш, які хочацца прывесці цалкам, таму што ён дае выразнае ўяўленне аб творчым аблічы Р. Лапушына:

**Моросит. Потеплее одеться.**
**Обойти дорогие места.**
**Инвалидам войны полотенца**
**Продают по талонам. Листва**
**Шелестит. Неожиданно близкий**
**Свет луны в магазин прошмыгнул.**
**Третий том безлимитной подписки —**
**Проза Пушкина. Тающий гул**
**Перекрестка. Изгибы оленьи**
**Тополей. И неоновый жгут**
**На ветвях. И клочки объявлений**
**Вдоль стены невозможного ждут.**
**Дождь, сгустившийся над мостовою,**
**Их сорвал, навсегда унося**
**Вместе с мусором, рядом с листвою.**
**И смывает водой голоса.**

Досыць высокая культура пісьма. Адчувальнае веданне лепшых узораў паэзіі. Гэта заўважыў і І. Шклярэўскі: «У адрозненне ад многіх маладых вершатворцаў, якія пачынаюць адлік у паэзіі ад блізкага слупка, Радзіслаў Лапушын не забывае, якія імёны ззяюць у бяздонным небе рускай паэзіі». Чые імёны, І. Шклярэўскі, праўда, не гаворыць. Я ж асмелюся сказаць, што Р. Лапушын нямала «бярэ» і ў таго ж І. Шклярэўскага, не «чужы» яму і Р. Барадулін. Прываблівае здольнасць маладога паэта сумяшчаць, здавалася б, зусім несумяшчальнае, тое, што быццам не стасуецца. На самай жа справе ў гэтым — тонкая назіральнасць, тое мысленне вобразамі, якім валодае далёка не кожны.

Гэты самы божы дар добра дае аб сабе знаць у вершы «Рынак». Тэма для творцы не вельмі ўдзячная. Але вось як гучыць яна ў Р. Лапушына: «Ты, вытянув руку, несешь над толпою, как залпы салюта, редиски пучок!» Нечакана, але ж — асэзальна! Яшчэ прыклады з іншага верша: «А чайки хлеб ловили на лету и с жадностью клевали высоту»...

Радзіслаў Лапушын — чалавек урбаністычнага складу. Жыве ў Мінску, вучыўся ва універсітэце, працаваў у шматтыражцы, скончыў аспірантуру. Таму, мабыць, пэўная абмежаванасць уражанняў у яго паэзіі кампенсуецца назіральнасцю, ужо адзначанай плынню будняў. Ці не таму Р. Лапушын так часта выкарыстоўвае асабовую форму верша? «Я, стирая подошвы, хотел видеть небо...», «Приглядываюсь. Город обнесен...», «Я прожил день....», «Для чего, отбиваясь от дум, наряжаюсь я в новый костюм...», «Я проснулся, едва на рассвете...» Гэта толькі пачатак вершаў, ён сведчыць, што паэту да ўсяго хочацца дайсці самому, усё паспрабаваць навобмацак. У той жа час калі-нікалі з'яўляецца і незадаволенасць усёй гэтай звычайнасцю і нейкай сваёй безабароннасцю перад ёй. Прыходзіць нават як бы пачуццё маральнай віны: «Никому я не в силах помочь».

Сапраўдная паэзія ніколі не абыходзілася без звычайнага «сострадания». Яно «рухае» і Р. Лапушыным, калі ён пакутліва разважае, дзе зрабіў нешта не так, у нечым схібіў. Як быццам, правільна жыў, не здраджваў ні самому сабе, ні блізкім. Але ж ці не падобная правільнасць прывяла многіх нашых сучаснікаў да бездухоўнасці, ці ж не яна дала карані душэўнаму нігілізму, маральнай непатрабавальнасці і непераборлівасці? Мы ж даўно пачалі ўжо жыць толькі ва ўласнай скарлупіне. Няхай і крохкая яна, але ўсё ж свая, за ёй — як за маленькай перагародкай. Астатняе нас нібыта і не тычыць...

Верш «Аварыя» — і пра гэта: «Ряды деревьев. Здание-гигант чернеет справа. Младший лейтенант какие-то таинственные знаки заносит, не спеша, в белеющий блокнот. Стекаютя зеваки...» А поруч:

**В сдавленном пространстве**
**Микрорайона светится ночлег**
**Разбросанных созвездий. И не гаснет.**
**И вытянувшись — мёртвый человек.**

Падумаць жа — мы ўсе такія «зеваки». Нам мала баліць, асабліва за чужых. Нам так шмат хочацца мець, у першую чаргу для саміх сябе. Таму і пакутуе душа лірычнага героя Р. Лапушына, што, на жаль, ён гэткі, як усе, а дапамагаць жа некаму неабходна.

Такая яна, паэзія Р. Лапушына — і спакойна-засяроджаная на буднях, і ўзнёсла-экспрэсіўная, гатовая над гэтымі

Радзіслаў Лапушын. Тры позіркі. Вершы на рускай мове. Серыя «Першая кніга паэта». Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

ніках і часопісах па стане на 1985 год, пераклады з іншых моў, зробленыя гэтым пісьменнікам. У кожным артыкуле называюцца і пераклады самога аўтара на іншыя мовы. Прытым, падаюцца яны на той жа мове, на якую яны і зроблены— польскай, англійскай, французскай... Гэта, зразумела, ускладніла нашу працу, але адразу бачна, які ўклад кожнага ў сусветную літаратуру. А то што атрымліваецца: гаворым вядомы, знакаміты... А ў нас факты. З іх і відаць, якой папулярнасцю карыстаюцца Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч... Іншыя ж вядомыя толькі дома.

У бібліяграфічнай частцы артыкула называецца ўся літаратура пра кожнага пісьменніка, якая ёсць у наяўнасці. І не толькі публікацыі крытыка-даследчыцкага, літаратуразнаўчага характару, але і вершы, іншыя творы, прысвечаныя яму. Указваюцца архіўныя матэрыялы — з нумарам фонду, справы, каб, пры неабходнасці, можна было лёгка адшукаць іх у сховішчах.

**— Вы ўжо выступалі на старонках «ЛіМа» з артыкулам, у якім гаварылі пра збор матэрыялаў для слоўніка...**

— Пасля артыкула мы атрымалі нямала лістоў, былі званкі... Дзякуючы чытачам, многія звесткі ўдакладнены, але, на жаль, не ўсе. Ведаем, што быў да вайны такі пісьменнік — М. Крапачоў, жыў у Гомелі, пісаў кнігі на армейскую тэматыку. Магчыма, вайсковец. Каб жа хто падказаў даты яго жыцця і смерці... Ёсць у нас папрокі да саміх пісьменнікаў. Не ўсе з іх своечасова завізіравалі дасланыя матэрыялы, не ўсе даслалі для слоўніка і сваё фота. Забываюць, што не нам гэта патрэбна, а для гісторыі літаратуры. Патрэбны нам таксама звесткі пра Васіля Багамольцава, Міколу Гваздова, Цімоха Зарэчнага, Фелікса Купцэвіча, Уладзіміра Прыбыткоўскага, Рыгора Хацкевіча, Лявона Юркевіча, якія актыўна друкаваліся ў 20—30-я гады.

— Падпіска на слоўнік «Беларускія пісьменнікі», — зазначыў на заканчэнне А. Мальдзіс, — завяршаецца. Таму, хто не зрабіў гэта, неабходна паспяшацца, бо ў сувязі з папяровым голадам тыраж будзе куды меншы, чым таго хацелася б. Кошт жа кожнага тома, як на сённяшні дзень, не такі і вялікі — 4 рублі 70 капеек. Частку выдаткаў аплачвае выдавецтву Акадэмія навук БССР. Можна сказаць, кожны падпісчык два-тры тамы атрымае бясплатна, таму што адзін том без датацыі каштаваў бы рублёў дзесяць.

# ПАЭТ З ВЁСКІ ЛЕТНІКІ



Імя Янкі Пачопкі цяпер вядома даволі вузкаму колу людзей, якія мелі шчаслівую магчымасць гартаць гадавікі газеты «Наша Ніва», заходнебеларускіх часопісаў «Калосьсе», «Заранка», «Маланка», «Хрысціянская думка» і іншых. Грамадская і літаратурная актыўнасць Я. *Пачопкі прыпала на 20—30*-ыя гады, калі магутны нацыянальны рух у Заходняй Беларусі спарадзіў цэлае пакаленне таленавітых палітыкаў, рэлігійных дзеячаў, літаратараў.

«Па мастацкай літаратуры далёка не пайшоў», — шчыра пісаў пра сябе Я. Пачопка. Яго невялікая літаратурная спадчына раскідана па заходнебеларускіх выданнях. Аднак усё зробленае ім сведчыць пра тое, што гэты светлы чалавек заслужыў нашу памяць і ўвагу.

Янка Пачопка нарадзіўся 26 кастрычніка 1890 года ў вёсцы Летнікі Дзісненскага павета Віленскай губерні (цяпер гэта Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці). Бацька яго служыў леснікам. У 1913 годзе Янка закончыў Варанецкую сельскагаспадарчую вучыльню (у цяперашнім Пастаўскім раёне) і працаваў у Дэпартаменце земляробства Віленскай губерні.

Літаратурную працу ён пачаў з вершаў, якія друкаваліся ў «Нашай Ніве», а пазней у іншых беларускіх выданнях. Па прапанове пасłоў Грамады быў рэдактарам двухтыднёвіка «Праваслаўны беларус», які выдаваўся ў Варшаве. Частку вершаў, легендаў і народных казак Я. Пачопка друкаваў у «Праваслаўным беларусе» пад псеўданімам Я. Башкір (вёска Летнікі, дзе нарадзіўся пісьменнік, дзялілася на два канцы, якія па-вулічнаму называлі Башкіры і Вушлакі). Дзякуючы свайму гумарыстычнаму таленту, Я. Пачопка стала супрацоўнічаў у «Маланцы», дзе друкаваў вершы і байкі пад псеўданімам «Шкірба».

У сваёй аўтабіяграфіі, напісанай у 1967 годзе па просьбе Зоські Верас і дасланай ёй, Янка Пачопка пісаў: «Больш увагі я аддаваў *кніжкам па сельскай* гаспадарцы, якіх у той час у нас па-беларуску зусім не было. Трэба было даць што-небудзь...» У 20-я гады ў Вільні выходзяць наступныя кніжкі Я. Пачопкі: «Малочная карова: як яе выбраць, карміць і даглядаць», «Гароднiцтва: як трэба гаспадарыць на гародзе, каб мець добрае варыва», «Як выбраць добрага каня», «Пчолы і як іх вадзіць у рамовых вульлях». У гэты ж час выходзіць пераклад з расейскай мовы, зроблены Я. Пачопкам, — «Вагнер Ю. Апавяданні аб жывёлах».

З малых гадоў Я. Пачопка збіраў і запісваў народныя казкі, паданні. З гэтых запісаў нарадзілася кніга «На*родныя казкі і апавяданні* Дзісьненшчыны», якая павінна была друкавацца ў выдавецтве Клецкіна. Аднак разгром Грамады прыпыніў дзейнасць выдавецтва. З друку выйшла толькі адна казка «Дурнішча». Народныя паданні і казкі, апрацаваныя Пачопкам, з'яўляліся на старонках дзіцячых ча*сопісаў «Заранка», «Пралес*кі», а таксама ў «Праваслаўным беларусе».

У апублікаваных у часопісе «Мастацтва Беларусі» старонках дзённіка Я. Драздовіча за 1933 год чытаем: «8 кастрычніка. Нядзеля. Іду ў Летнікі да Янкі Пачопкі. Ён чалавек хатні... Пайду да яго пагукаць, пачытаць, падзяліцца.

20 снежня... Новы год спаткаў на дарозе, мімаходам — у Янкі Пачопкі (Я. Башкіра) у Летніках...

Памог Янку, дзеля народнага мастацтва, некалькі дэкаратыўных дывανоў, сценных, казеінавымі фарбамі на чорнаафарбаваным кужалі ды зрэб'і выкантурыць і напэцкаць».

Найблізшыя землякі, найблізшыя сябры. Яшчэ ў 1923 годзе Я. Драздовіч зробіць усе малюнкі да кнігі Я. Пачопкі «Пчолы і як іх вадзіць у рамовых вульлях». А як жа будзе сагравацць гэтае сяброўства ў цяжкія гады сталіншчыны, калі, здаецца, усё зробленае імі ў маладосці, дзеля чаго жылі і гарэлі, забыта і забаронена. Я. Драздовіч ходзіць ад хаты да хаты, малюе дываны, партрэцікі, выразае кійкі, куфэркі. Дорыць радасць, прыгажосць сваім землякам — і жыве з гэтага. Я. Пачопка вучыць любіць і даглядаць зямлю, каб радзіла — працуе аграномам. Летнікі, сям'я Пачопкаў былі радасцю для састарэлага, адзінокага дзядзькі Язэпа. Для Янкі Пачопкі гасцяванне Я. Драздовіча — гэта сустрэча з *блізкім па духу чалавекам*, магчымасць успомніць сваю маладосць, Вільню, пагаварыць на роўных пра ўсё...

Янка Пачопка пражыў 87 гадоў. Вырасціў траіх дзяцей — сына і дзвюх дачок. У старэйшай дачкі Я. Пачопкі Ліны Іванаўны Павульскай, якая жыве ў вёсцы Загор'е Глыбоцкага раёна, агранома па спецыяльнасці і шчырай аматаркі народных спеваў, захаваўся рукапісны сшытак бацькавых вершаў. Гэтую сямейную рэліквію яна ахвяравала Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры. Увазе чытачоў прапануецца некалькі вершаў з гэтага сшытка.

Ірына **МАРАЧКІНА**,
ст. навуковы супрацоўнік
Дзяржаўнага музея
гісторыі беларускай
літаратуры.

**Янка ПАЧОПКА**

## ДАЎНЕЙ І ЦЯПЕР

**Дзівуеш толькі, жмеш плячамі,**
**Ніяк ня можаш зразумець,**
**Як ўсё мяняецца з часамі**
**І ўсё навыварат ідзець.**
**Ці так даўно у нас бывала.**
**Хто болей сеяў ды пахаў,**
**Таму пачот, была і слава,**
**І чалавекам кожан зваў.**
**А хто мякінай гадаваўся**
**Ці хлеба ў рот не браў свой век,**
**Той дурнем, лотрам толькі зваўся**
**І проста быў не чалавек.**
**А вось што стала гэтым векам,**
**Таго не ўцямлю я ніяк:**
**Апошні стаўся чалавекам,**
**А першы — проста стаў кулак!**

## ДОБРЫ СЫНОК

**Сынка ў школу выпраўляе,**
**Маць горка плачыць, навучая:**
**— Глядзіш, Андрэйка мой, вучыся,**
**Ды ня дурэй і ня лянiся,**
**Каб як станеш сам на ногі,**
**Бацьком было з цябе падмогі!**
**Сынок стаяў, маўчаў сумены,**
**Відаць штосць думаў хлопчык бедны,**
**Нянач жалеў кідаць ён хатку,**
**Ды бацьку роднага, і матку.**
**Нарэшце з духам ледзь сабраўся**
**І к матцы гэтак адзаваўся:**
**— Мне, мама, проста сэрца рвецца**
**Глядзець, як цяжка вам жывецца!**
**І чым у школе боты драці,**
**Я за зіму вам хлеба ў хаце**
**(Калі б здароўе даў мне Бог)**
**Вун колькі з'есьці дапамог!**
**А так што зробіце вы самі**
**З такімі дрэннымі зубамі.**
**Чужы ніхто вам не паможа...**
**А што, няпраўду кажу, можа!**

## ВАСІЛЁЧКІ

**Ці помніш ты той светлы час**
**Пятроўкі дзіўныя дзянёчкі:**
**З табой хадзілі мы не раз**
**Зьбіраць у жыта васілёчкі!**
**І назьбіраўшы, ля ракі**
**Сярод цішы палёў далёкіх,**
**З табой плялі ўдваіх вянкі**
**Мы з васілёчкаў сінявокіх.**
**І шчасны былі мы з табой,**
**Жыцця дакорaў мы не зналі**
**І з васількамі над ракой**
**Цьвіцелі разам, красавалі.**
**Прайшла пара тая, як сон,**
**Мне не дажадцца болей лета.**
**І не ўбачыць тых ўжо дзён**
**Душа збалелая паэта.**
**Прашу цябе на успамін**
**Сьвятых для нас з табой дзянёчкаў**
**Хоць на магілку раз адзін**
**Ты прынясі мне васілёчкаў.**
**А можа там, у цьме сырой,**
**Твае засьвецяць сіні вочкі,**
**І я ізноў, як тэй парой,**
**Убачу ў полі васілёчкі!**

Публікацыя
Л. ПАВУЛЬСКАЙ.

буднямі ўзнесціся, і драматычная ў сваёй сутнасці, таму што аўтар не абыходзіць вострых бакоў жыцця. Я невыпадкова сказаў — драматычная, бо Р. Лапушын не схільны да лозунгавай выкрывальнасці негатыўных з'яў ці адмоўных праяў чалавечай існасці.

Жывучы ва ўласным мікрасвеце, яшчэ ў многім кніжным, Р. Лапушын не заўсёды ўмее правесці рэзкую, такую патрэбную ў паэзіі мяжу паміж сабой рэчаіснасцю і ўяўленнем пра яе. Гэта часам прыводзіць да з'яўлення знешне вабных, але, калі ўчытаешся ў радкі, надуманых параўнанняў: «Чью-то пыльную обувь примеряет луна», «вечерняя свежесть», якая, не запытаўшыся «под рубашкою сердце сосет»... Не кажучы ўжо пра бармена, што «рожей оккупанта выглядывает».

Што ж, адбываецца станаўленне мастакоўскай індывідуальнасці. Талент сцвярджае сябе, талент пераадольвае ўсё выпадковае, чужое, узятае напавер. Часам гэта адчувальна ў адным і тым жа творы. Скажам, у чатырохрадкоўі, вынесеным эпіграфам да кнігі:

Я жил как мог. Я отвечаю
За каждый шаг своей судьбой.
И страшно встретиться глазами
С ребенком, деревом, звездой.

Няцяжка адчуць, што першыя два радкі напісаны, як бы лепш сказаць, «навырост», ці што. У двух жа наступных — сваё, а непрыдуманае. Тая далучанасць да самога свету і яго бедаў, лёсаў людзей, якая і дала магчымасць з'явіцца лепшым вершам паэта.

На думку І. Шклярэўскага, Р. Лапушын «у жыцці... падобны на дрэва без кары, а вершы...» І. Шклярэўскі адказу не дае: «Не буду апярэджваць чытача — з павагі да яго разумення паэзіі». Вершы Р. Лапушына, як мы ўжо заўважылі, таксама з падобнага шэрагу. Сваю безабароннасць перад жыццём, сваё чуйнае ўспрыманне і разуменне яго паэт перанёс і ў творы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**З ПРАЧЫТАНАГА**

# АЎТАР СЛОЎНІКА—А. САЛЖАНІЦЫН

Імя лаўрэата Нобелеўскай прэміі Аляксандра Ісаевіча Салжаніцына ў апошні час стала надзвычай папулярным. У друку з'явіліся шматлікія інтэрв'ю, гутаркі з пісьменнікам, кожны часопіс імкнецца апублікаваць яго работы...

Новую старонку ў творчасці Салжаніцына нядаўна адкрыў навукова-папулярны часопіс АН СССР «Русская речь», які пачаў друкаваць арыгінальную мовазнаўчую работу пісьменніка — «Русский словарь языкового расширения». Над ім А. Салжаніцын працаваў больш як сорак гадоў: «С 1947 года много лет (и все лагерные, так богатые терпением и лишь малыми клочками досуга) *я почти ежедневно занимался* обработкой далевского словаря — для своих литературных нужд и языковой гимнастики».

Слоўнік А. Салжаніцына — з'ява незвычайная, у пэўнай ступені нават нечаканая ў лексікаграфічнай практыцы. Аўтар паставіў задачу «восполнить иссушительное обеднение русского языка и всеобщее падение чутья к нему — особенно для тех молодых людей, в ком сильна жажда к свежести родного языка, а насытить её — у них нет того многолетнего простора, который использовал я».

У слоўнік трапілі словы, «никак не заслуживающие преждевременной смерти, ещё вполне гибкие, таящие в себе богатое движение, — а между тем почти целиком заброшенные, существующие близко, рядом с границей нашего изношенного узкого употребления, — область желанного осуществимого языкового расширения. Также и слова, частично ещё применяемые, но всё реже, теряемые как раз в наше время, так что им грозит отмирание. Или такие, которым сегодня может быть придано *освеженное новое значение*».

Я невыпадкова звяртаю ўвагу на выказванні пісьменніка, узятыя з прадмовы аўтара да слоўніка. У гэтых заўвагах і назіраннях пульсуе не толькі няўрымслівасць характару майстра слова, яго боль і крык душы за будучае рускай мовы, але і глыбокія перажыванні А. Салжаніцына за незайздроснае становішча і шматлікія страты ў многіх іншых мовах народаў СССР, асабліва роднасных рускай.

Слоўнік А. Салжаніцына арыгінальны не толькі пададзеным матэрыялам, выбраным з твораў буйнейшых пісьменнікаў XIX—XX стст. (Л. Талстога, М. Кальцова, С. Ясеніна, В. Астаф'ева, В. Распуціна, В. Шукшына і інш.), але і лінгвістычнай інтэрпрэтацыяй моўных фактаў. Многія словы прыводзяцца ў нетрадыцыйным напісанні, насуперак правілам сучаснай рускай арфаграфіі. Напрыклад, пісьменнік аддае перавагу этымалагічнаму прынцыпу пры напісанні слоў з прыстаўкамі. Ён лічыць, што фанетычны прынцып заглушае («гасит») сэнс слова (напрыклад, **изсекать** замест **иссекать, возсылать, близтекущий** і пад.). Гэтыя і іншыя прынцыпы не дазволілі пісьменніку зрабіць слоўнік у строгім алфавітным парадку. Таму многія словы сустракаюцца не на «сваім» месцы, але кожнае ў сваім словаўтваральным гняздзе. Як піша сам складальнік, «предлагаемый словарь предназначен не для розыска по алфа*виту, не для справок, а для чтения, местами подряд или случайного заглядывания*».

Новы слоўнік рускай мовы лёгка чытаецца і не патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі, яго артыкулы змяшчаюць мінімальна неабходную інфармацыю. Зрэшты, мяркуйце самі: «**Бабеныш** — ребенок, не отходящий от женщины, подподольник»; «**багульный** (архаичное) — терпкий, острый»; «**баснословить** —1. рассказывать легендарную старину. 2. пустословить»; «**беспорядничать, беспорядить** — о бестолковых распоряжениях»; «бежать **босоплясом** (в грязи, по снегу, по горячему)»; «**блинщина** — пора блинов»; «**вдович, вдовишна** — сын, дочь вдовы»; «**векописный», «великоименитый** — 1. знатный. 2. прославленный великими делами»; «**верняк** — верное, несомненное дело».

«Русский словарь языкового расширения» А. І. Салжаніцына з працягам будзе друкавацца ў наступных нумарах часопіса «Русская речь». У будучым плануецца выдаць яго асобнай кнігай.

Пазнаёміўшыся з арыгінальнай лексікаграфічнай работай рускага пісьменніка, не перастаеш думаць, што і ў беларускім мовазнаўстве востра не хапае такога слоўніка. Асабліва зараз, калі з небыцця вяртаюцца шматлікія заўчасна ўстарэлыя, забытыя і неабгрунтавана выцесненыя лексемы 20—30-х гадоў, калі прыйшоў час выправіць моўныя перакосы мінулых дзесяцігоддзяў.

**М. ПРЫГОДЗІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**дацэнт БДУ імя У. І. Леніна.**

*Алесь Асіпенка*

# ВОРАН

*апавяданне*



І ЗНОЎ, як гадоў дваццаць назад, мяне пацягнула ў растрэсены да рэшты родны кут. Ліха ведае з якой прычыны, але той ачажок, дзе прайшло дзяцінства, назаўсёды застаецца ў памяці, а найхутчэй — ва ўражлівай душы. Вось жа тры чвэрці жыцця прайшло ў горадзе, на асфальце, дзе і ў асеннюю слоту можна хадзіць у мадэльных туфлях, а ўсё роўна цягне ў вёску, на старое, парослае быльнягом дворышча з граззю па вушы, дзе нават кладкі з гарбылёў зніклі, як грэшныя душы ў бездані пекла. Ды, лічы, нікога ўжо там і не засталося: дваюрадная сястра ды траюрадны брат — двое адзінокіх старых.

Сястра, гадоў на дзесяць маладзейшая за мяне, яшчэ кіравала гаспадаркай: гадавала двух кабанчыкаў, трымала карову і цёлку, мела тузін курэй, на пяці сотках ураджайны сад, а ў ім чатыры калоды пчол. Брат на канец года выкормліваў кабана, накопваў — не сам, вядома, а дачка з зяцем — склеп бульбы, вырошчваў з паўсотню качаноў капусты, меў яшчэ і пяць яблынь, але яблыкі штогод прападалі. Нават сабакі і ката ў брата не было — дармаеды! Затое ў яго жыў воран Грыша, якога, бывала, раззлаваўшыся, брат выганяў на двор; ляці, нягоднік, да сваёй хеўры, а той, падыбаўшы па няўтульнай зямлі, крыху палятаўшы ў хмурай марасі, вяртаўся дамоў. Сеўшы на пасечаны парог сенцаў, воран раз'ятрана крычаў, патрабуючы да сябе павагі і ўвагі.

Пра ўсё гэта, пасля доўгага маўчання, напісала мне сястра і я, раздражніўшы сваё ўяўленне да крайнасці, згадаў гэткі ідылічны малюнак вясковага жыцця, што ўжо не мог уседзець дома, папёрся, як кажуць, па ружовы туман дзяцінства.

Я разважаў не зусім па-дурному. Была ў мяне пэўная логіка, свой, калі хочаце, стратэгічны план, дзе ўсё было разлічана і ўлічана па паркетна-асфальтавай схеме: прыеду ў Плёсы, вазьму таксі, папрашу шафёра ўключыць транзістар, стану слухаць музыку і любавацца дарагімі мне краявідамі, летуценна прыгадваць залатое дзяцінства, а потым, як асталююся ў сястры, буду піць крынічную ваду, есці свежаніну — на яе і запрашала мяне сястра, — ляжаць на печы, выганяючы з хрыбта назапашаныя ў горадзе солі. Любата і хараство!..

Потым я не раз прыгадваў мудрае талстоўскае выслоўе: гладко было на бумаге, да забыли про овраги, а по ним ходить...

У Плёсы я прыехаў раніцай. Над горадам вісела бурая калматая хмара, з якой сеяўся золкі, дробны дождж. Адзіны на ўсю прывакзальную плошчу таксіст-прыватнік, пачуўшы, куды мне трэба ехаць, выплюнуў у лужыну недакурак цыгарэты, рашуча сказаў:

— Дзесяць...

— Згодны, — пагадзіўся я.

— Чырвонцаў, — удакладніў таксіст.

У мяне аж вочы палезлі на лоб — гэта ж амаль мая пенсія.

— А сотняў не хочаш? — яхідна спытаўся я.

— Сотнямі кідаюцца кааператары, а ты, дзед, пенсіянер, — разважліва адказаў ён. — Так і быць, павязу за сем з паловай.

— Вазі сваю цешчу, — сказаў я і адышоўся крокі на тры, спадзеючыся, што таксіст пастаіць, пастаіць ды і павязе мяне па-божаму тарыфу.

Але шафёр і не думаў мяне клікаць, я стаяў, як той слуп, мок пад дажджом. Неўзабаве да таксіста размашыста падышлі двое барадатых малайцоў з імпартнымі дыпламатамі.

— Шэф, фрахтуем на ўвесь дзень, — сказаў адзін з іх.

— Восемдзесят, — адказаў таксіст.

— Шэф, аб чым дзела, — весела адгукнуўся другі.

Яны селі на задняе сядзенне. Таксіст завёў машыну, пастаяў, праграваючы матор. Затым, зусім нечакана для мяне, адчыніў пярэднія дзверцы, паклікаў:

— Дзед, сядай, якраз міма паедзем. Кліенты згодныя.

Спачатку мне хацелася адмовіцца. Але, пакуль галава думала, ногі самі ўсунуліся ў салон.

Хвілін праз пятнаццаць таксіст спыніў машыну на мосце праз кароткую — ад балота да балота — рачулку Пітамку. Я дастаў з кішэні чырвоную з партрэтам правадыра дзесятку — шафёр адхіліў маю руку:

— Не, не, кліенты падвозілі бясплатна.

Я паклаў чырвонец на сядзенне.

— Ганарысты дзед, — рагатнуў маладзейшы кліент.

— З гонарам і памру, а да пераможанай Германіі з працягнутай рукой не пайду, — адказаў я і ляпнуў дзверцамі.

Пырснуўшы ў нос гарай, машына рванула з месца і тут жа знікла за павароткай на Усцяж. Толькі цяпер я азірнуўся наўкола і аж жахнуўся ад таго, што пабачыў.

У туманнай імжы невыразна бачыліся шэрыя контуры вёскі: старыя, пахілыя хлеўчукі, скасабочаныя, падслепаватыя хаты, рэшткі нейкіх агароджаў, Бог ведае, дзеля якіх мэт пастаўленыя. Ды жахнула не гэта, а дарога ў вёску, пралеглая між дзвюх канаў, па самыя берагі запоўненых вадой. У маіх чаравіках, хай сабе і з высокімі халявамі, не было чаго совацца ў гэты бяздонны кісель з пяску і гліны.

Я стаяў у роспачы, пазіраючы на такі ўжо блізкі і такі непадступны родны кут. Ён быў, як локаць: зусім побач, а не ўкусіш. Што далей рабіць, як дабрацца да вёскі? Каб улетку, дык разуўся б, закасаў штаніны ды пайшоў напрасткі. Стаяла восень, здавалася, што вось-вось пойдзе снег.

Раптам з імжы, адтуль, з вёскі, пачулася лапатанне матора, а неўзабаве з-за старога гумна вынырнуў гусенічны трактар, паплыў сюды, гонячы перад сабой пругкую хвалю гразі. Калі да шашы заставалася метраў дваццаць, я пабачыў, што трактар цягне на прычэпе вялізныя сані, а ў іх стаіць чалавек, махае сашчэпленымі рукамі, нібы трымае дрэўка сцяга. Я не паспеў апамятацца, як трактар нырнуў пад мост, прапоўз па рэчышчы і вынырнуў ужо на тым баку, выбраўся з ракі на лужок перад лесам. Чалавек, што махаў рукамі, саскочыў з саней, пачаў караскацца па адхоне да мяне. Толькі цяпер я здагадаўся, што гэта і ёсць мой траюрадны брат Мікла Ганчарык.

«Але ж і састарыўся — не пазнаць», — падумаў я.

— Здарова, братуха, — задыхана закрычаў Мікла і выцер падкладкай шапкі вочы. — А гляджу: стаіць чалавек, быдта не наш, гарадскі. Мяне адразу і асяніла — ты. Дашка казала, што збіраешся прыехаць. Ото ж дурная баба. Сказала б мне толкам, дык я з раніцы прыгнаў бы сюды трактар. Мабыць жа, акалеў, стоячы тут, на ветры. А я па дровы прыехаў. Ездзіў у леспрамгас. Не хочуць, сволачы, ветэрану памагчы. Ідзі, кажуць, у гартоп. А на храна нам гартоп, калі лес побач. Хто мне з таго гартопа дровы прывязе? А тут хлопцы свае. Учора самагонку выгнаў, дык хлопцы ў ахвотку памогуць.

— Самавольнічаеш, — падкалоў я Міклу.

— Ваабчэ, па закону. За самаволку штрафуюць — бутэлькай і не адмолішся. Я ім там даў разгон. Як некалі гаварыў Хрушчоў: паказаў кузькіну маць. Пачухаліся, пачухаліся ды і адвалілі тры сухастоіны. А я цяпер да тых трох яшчэ тры агораю. Глядзіш, Мікла і перазімуе. Хадзем, пасядзіш у кабіне, пакуль мы пагрузімся. У тваіх штыблетах адзін чорт да вёскі не дабярэшся. Толькі на санях і ездзім...

Мікла пацягнуў мяне да трактара. Ля яго стаялі двое хлопцаў. Ад абаіх смярдзела перагарам. Тыцнуўшы пальцам у круглатварага, адутлаватага хлопца, Мікла як бы і з гонарам сказаў:

— Гэта, во, Дзёмка, Сяргея Бруя сын, пляменнік па жонцы. Хоць ты і Сяргея не памятаеш. Ён жа перад вайной нарадзіўся. А бацьку Сяргея павінен ведаць. Стахван Бруй з Себячына.

— Ага, ага, — працягваючы Дзёмку руку, пагадзіўся я, хоць, шчыра кажучы, не памятаў Стахвана і ніяк не мог даўмецца, як гэты Дзёмка мог аказацца пляменнікам Міклавай жонкі.

— А гэта Валера, — кіўнуў галавой Мікла ў бок скуластага, з чорнымі бураўчыкамі вачэй хлопца. — Аблудны сын свайго народа, але трактарыст што нада.

Вялізны, акуратна складзены касцёр з хлыстоў і тоўстых камлёў ляжаў пры лясной дарозе. Нават з першага позірку было відаць, што Мікла да трох сухастоін дадаў з дзесятак ялін і бяроз. Ягоныя памочнікі высеклі чатыры калы, паклалі на край саней, пачалі па іх катаць камлі і хлысты на сані.

Управіліся яны не больш як за паўгадзіны. Валера завёў трактар, запрасіў мяне ў кабіну, але я адмовіўся. Мы ехалі з Міклам, седзячы на дровах, і я з жахам глядзеў, як за санямі змыкаецца з агідным хлюпаннем гразкая прорва.

У першы клас Мялюхаўскай школы я пайшоў на пакровы і то пасля таго, як бацьку прыгразілі штрафам. Пад школу сельсавет арандаваў дзве хаты, якія стаялі побач. Першы і трэці класы, што вучыліся ў хаце Аўгуста Драздоўскага, вяла Алімпіяда Паўлаўна.

На другі ці на трэці дзень вучобы, пасля заняткаў, мяне запыніў рабацініcты, са шчарбінай у роце хлопец з трэцяга класа.

— Чакай, нам з табой па дарозе, — сказаў ён. — Я твой траюрадны брат Мікла.

На дарозе нам было толькі да скрыжавання: Мікла жыў у Высечках, а я — на Дабрынінскіх хутарах. На скрыжаванні за раўчуком стаяла лазня. Мікла павёў да яе. У прылазніку ён сеў на лаўку, дастаў з-за падкладкі палітончыка скураны капшучок, скруціў дзве цыгаркі: сабе і мне.

— Я не куру, — слаба, чагосьці саромеючыся, запратэставаў я.

— Навучу, — паабяцаў Мікла.

Накурыўшыся да млоснасці, я рашуча заявіў:

— Больш і ў рот не вазьму.

— Возьмеш, — упэўнена адказаў Мікла. — Давай згуляем у пёры. Колькі іх у цябе? Пакажы пенал...

У пенале ляжала чатыры «крыжыкі» і дзве «жабкі». Гульня мне спадабалася. За нейкія паўгадзіны я прайграў усе шэсць пёраў.

— Мікла, — папрасіў я брата, — аддай мне хоць адзін «крыжык». Чым я заўтра пісаць буду?..

— І не канькай, не дам...

Ці не тады ўпершыню я схлусіў бацьку, сказаўшы, што пёры ў мяне адабралі нейкія хлапчукі. Бацька насварыўся, а я пакляўся больш у пёры не гуляць — Мікла даў добры ўрок. Ды ўрок той не пайшоў на карысць. З лёгкай Міклавай рукі я прыахвоціўся да гульні. Часам у мяне быў поўны пенал пёраў, часам — ніводнага. Тады я купляў пяро за дзесяць пстрычак па лбе.

Пасядзеўшы па два гады ў трэцім і чацвёртым класах, Мікла разам са мной заканчваў чацвёрты клас, а на гэтым і сваю адукацыю. А я пайшоў вучыцца ў пяты клас Войтаўскай школы і ўжо не сустракаўся з Міклам. Ягоныя бацькі ўступілі ў адзін калгас, мае гады праз два — у другі. Нашы сцежкі на пэўны час разышліся. Ды дарогі калі-небудзь перакрыжоўваюцца, чалавечыя лёсы таксама.

Пасля сямігодкі я паступіў у педагагічны тэхнікум, а тыдні за два да каляд раптам захварэў. Дактары палічылі мяне невылечным і, каб не псаваць справаздачы, адправілі паміраць дамоў. Ды я неяк выжыў, хоць яшчэ месяцы чатыры быў прыкаваны да ложка: не мог нават прайсціся па хаце. Толькі ў снах хадзіў і нават бегаў з нейкай неймавернай лёгкасцю. Перад маем я ўпершыню зрабіў крокаў пяць па хаце, трымаючыся за спінку гнутага венскага крэсла. А недзе ў чэрвені ўжо патроху хадзіў на мыліцах, зробленых мне бацькам. Яшчэ месяцы праз два я пайшоў і без мыліц. А пайшоўшы, аднаго разу дапяў да горада, аднавіў сваё права на атрыманне кніг у гарадской бібліятэцы, набраў іх поўны самаробны чамаданчык з фанеры. Але ўжо на Малым базарчыку, што знаходзіўся на самым выездзе з Плёсаў, зразумеў, што дамоў мне не дайсці.

Я стаяў на пустым базарным пляцы ў роспачы. Блізілася ноч, пачынаўся халодны спорны дождж, балелі ногі, а наперадзе ніякай надзеі, што нехта паявіцца на калёсах і, можа, давязе мяне дадому. Ды, мабыць, шчасце пільнавала мяне — з Тулаўскага завулка, грукаючы коламі па бруку, выехала пяцёра падвод, у адным з вазакоў якіх я пазнаў траюраднага брата Міклу. Значыць, я ўратаваны, бо Мікла давязе мяне да хаты — што яму зрабіць крук у паўтара кіламетра.

Вакол возчыкаў неўзабаве зашасталі нейкія жанчыны. Перамовы з імі вёў Мікла і, відаць, паспяхова, бо хлопцы, што прыехалі з ім, выцягвалі з-пад сена мяшкі з бульбай, перасыпалі яе ў мяшкі жанок. Прададзена было і сена.

Калі гандлёвая здзелка завяршылася, я падышоў да Міклы. Ён здорава змяніўся за час нашага расстання: памужнеў, набыў упэўненасць і нават нейкае нахабства, што так і вытыркалася з яго. Не скажу, што майму нечаканаму паяўленню Мікла вельмі ўзрадаваўся, але сустрэў па-свойску.

— Дык аб чым дзела — давязу, — паабяцаў ён. — Зараз мальцы скочуць па пляшку і паедзем, — а калі мальцы пайшлі, стаў тлумачыць: — Па гэтай гразі цяпер ніхто не кідаецца вазіць бульбу на здачу. Ну, а мы халастыя ды нежанатыя на ўсё згодныя. Дык старшыня калгаса нам за гэта па кашу бульбы насыпае. І яго зразумець можна — план здачы выконваць трэба, і нам пажраць нада і за губу ўзяць таксама.

— Ды я нічога і не бачыў, — схлусіў я.

— А нам і хавацца няма чаго. Ваабчэ, усё па закону.

Мальцы прынеслі тры пляшкі гарэлкі, кіло камсы і дзве буханкі сітнага хлеба. Пілі гарэлку, закусвалі камсой пад дажджом у густых змроках, якія крыху разганяла адзіная на ўвесь базар лямпачка Ільіча на старым падгнілым слупе. Закончыўшы пірушку, Мікла паклаў поперак калёс дошку — атрымалася добрае седала, — падаў мне мяшок, каб накрыўся — дождж разышоўся не на жарт. І мы рушылі ў дарогу.

За могілкамі, дзе канчаўся брук і асвятленне, нас ахутала непраглядная цемра. Толькі паблісквала ў лужынах вада ды падсветленыя гарадскімі агнямі чырванелі ўгары хмары.

Калёсы завальваліся то на адзін бок, то на другі, коні чмякалі нагамі ў рэдзенькай гразі. Мы спачатку ехалі, пільнуючыся адзін аднаго, а потым, калі ўцягнуліся ў лес, паразгубляліся. Кожны ехаў наўгад, ведаючы, што за лесам дарогі абавязкова перакрыжуюцца.

Мы і сапраўды не заблудзіліся, выехалі да моста праз рэчку Паланую, за якой пачыналіся Пульгаеўскія хутары. Дождж ліў не перастаючы і ўжо не ратавалі мяшкі, якімі мы накрыліся. Але мне ўсё роўна было добра і шчасліва, а вандроўка ўначы па гразі і бездарожжы выглядала рамантычнай прыгодай: парыпвалі калёсы, пасапваў конь, сіпеў дождж, а ў начной імжы свяціўся агеньчык у чыёйсьці хаце, выклікаючы заміласнасць і неспасцігную дасюль радасць. Чаго? Чаму? Можа, вось гэтаму адчуванню свайго існавання ў свеце, сваёй далучанасці да чужых жыццяў, якім свеціць невыразны агеньчык уначы, сваёй неадзінокасці і веры ў тое, што цябе чакаюць таксама. Якое гэта шчасце бачыць агеньчык у цёмную ноч!..

Мне хацелася разгаварыць брата, распытаць пра ягонае жыццё, ці задаволены ён ім? Але Мікла, пакуль мы ехалі лесам, не падтрымліваў гаворку, і толькі цяпер, калі выехалі на поле і дождж крыху надціх, разгаварыўся.

Добра памятаю, я спытаўся ў яго, ці шчаслівы ён — вечнае пытанне ідыётаў, якія начыталіся кніжак і вераць у нейкае абстрактнае шчасце, — і ці не раскайваецца, што не пайшоў вучыцца далей?

— А на чорта вучыцца, — сказаў Мікла з грубой шчырасцю. — З мяне і чатырох класаў хопіць. Вучацца тыя, хто хоча ў начальства выбіцца. Прапанавалі мне стаць брыгадзірам — адмовіўся. З якой радасці мне нада за некага сваю галаву падстаўляць? Я сам за сябе хачу адказваць і ні ад каго не залежаць...

— Як гэта?..

— А так. Сказалі — зрабіў. І кропка. Загадалі бульбу дзяржаве адвезці — адвёз. Прыеду дамоў, пераапрануся і на вечарынку завалюся. Мне свабода патрэбна. У начальства вылезеш, дык толькі азірайся: і тое нельга і гэта нельга, а цябе яшчэ калгаснікі дацінаюць: каня дай, з працы адпусці, а старшыня са свайго боку паганяе. Ну, вось ты, к прыкладу, вывучышся на настаўніка. Дык жа адразу і згубіш свабоду, куды захочаш не пойдзеш. Вунь у нашу Мялюхаўскую школу дзвюх маладых настаўніц прыслалі.

Дзеўкі маладыя, аж гараць, а пайсці нікуды не могуць — баяцца ў вучняў павагу згубіць. Ходзяць па адной масніцы. А я куды захацеў, туды і пайшоў, што захацеў, тое і зрабіў. З тваіх кніжак, што поўны чамадан вязеш, які разлік? Адно, што душу раздражніш. Уся наша жызня пасля тваіх кніг здасца чорнай, як гэтая ноч. А папраўдзе ты яе ўсё адно не зможаш. Таму жыць трэба проста, без выкрутасаў...

Не ведаю чаму, але Міклавы разважанні моцна мяне ўразілі. Можа, таму, што я таксама хацеў жыць вольна, незалежна, рабіць тое, што мне падабаецца, нікому не падпарадкоўвацца, і мне падумалася: можа, і праўда, я дарэмна вязу кнігі, мару самастойна закончыць восьмы клас, каб паступіць на другі курс педрабфака. Можа, і праўда, трэба жыць проста, не ламаць галавы над праклятымі пытаннямі, на якія ўсё роўна не знойдзеш адказу, а калі знойдзеш?..

«Якая гэта праўда, — думаў я, — рабіць сваю справу і нікога не прызнаваць, нібы ты сам сабе і Бог і суддзя. На ліха сушыць мазгі, забіваць іх несусветным мноствам ведаў, якія табе, можа, і не спатрэбяцца, а ўжо зусім пэўна не вызваляць цябе з путаў залежнасці. Наадварот, заняволяць. Ары зямлю, сей, жні і малаці збожжа. З зямлі ты выйшаў, у зямлю і пойдзеш і імкніся адарвацца ад яе. Птушкі і тыя вяртаюцца з выраю. Навошта табе той вырай — ён усяго толькі рудымент чагосьці мінулага».

Думалася крыху самотна, але з непагаснай верай, што думаецца вельмі хораша і дужа правільна. Аж было дзіўна, як я раней да такога не дадумаўся. А кончыў жа сямігодку! Мікла не канчаў, а вунь якія зрабіў высновы.

На раздарожжы, адкуль адна дарога прамавала да Міклавай вёскі, а другая, агінуўшы шылінскія хутары, праходзіла паўз нашу хату, я папрасіў Міклу:

— Завязі мяне дамоў — дужа ногі баляць. Табе на кані паўтара кіламетра не круг.

— Яно так, — памаўчаўшы, сказаў Мікла, — але ж і на вечарынку не хочацца пазніцца.

Я не стаў крыўдаваць — вельмі ўжо спадабалася мне начная прыгода ды быў удзячны і за тое, што Мікла давёз мяне дасюль — дайду!

Неўзабаве я аднёс у бібліятэку кнігі, мне вярнулі залог якраз на бутэльку гарэлкі, якую мы і выпілі з Міклам, а потым заваліліся на вечарынку і зноў адчуў свабоду, шчасце і мройную летуценнасць ад раскаванага жыцця.

У мясаед я пазнаёміўся з дзяўчынай з суседняй шляхецкай вёскі Казіміраўка. Звалі яе Сабіна, яна была нашмат старэйшая за мяне, але гэта анічуць мяне не бянтэжыла, наадварот, узвышала. Як жа! Ганарыстая шляхцянка, а трымаецца мяне, мужыка-беларуса. Ці не таму зіма праляцела вобмігам. А ў маі раптоўна памёр бацька, пакінуўшы на мае плечы гаспадарку, шматлікія падаткі, трох маладзейшых за мяне сясцёр і хваравітую маці, якая пасля смерці бацькі зусім занядужала.

— Ну, што ж, жаніся з Сабінкай, — сказала мне аднаго разу маці. — Малады яшчэ, нездаровы, табе якраз і патрэбна сталая жонка.

Мне тады споўнілася васемнаццаць і я адчуваў сябе дужа дарослым, разумным і гаспадарлівым. У нядзелю я збіраўся пайсці ў сваты, а ў суботу ранічай па калгасе пракацілася чутка, што ўсе дарослыя жыхары Казіміраўкі ноччу арыштаваны і аж шэсць хат стаяць пустыя. Каханне пагнала мяне да Сабіны. Я ўсё спадзяваўся, што яе бацькоў абышло ліха.

Хата Геронькі Старыковіча, бацькі Сабіны, стаяла на водшыбе, каля лесу. Мяне сустрэў сабака Рудзік, кідаўся на грудзі, скуголіў, нібы скардзіўся, што яго пакінулі гаспадары, і ўсё заглядаў мне ў вочы.

Я абышоў хату, сумна паглядзеў на апячатаныя дзверы. На вокнах яшчэ віселі папяровыя фіранкі, на падаконніках цвілі кветкі, але ўжо дыхала запусценнем і смерцю.

Тыдні праз два, а можа, і праз месяц — ад узрушанасці тым, што здарылася, я неяк незаўважаў час — да мяне завітаў Мікла.

— А мы цяпер суседзі, — узрадавана аб'явіў ён. — Мы цяпер будзем жыць у Казіміраўцы. Купілі хату.

— У каго?

— У калгаса, вядома. Ён усе сялібы ворагаў народа прадаў. Нам дасталася хата нейкага Геронькі...

Мяне аж скаланула. Дасюль я ўсё яшчэ спадзяваўся, што адбылася памылка. Цяпер ніякай надзеі не засталося. Калі калгас прадае хаты, дык ён пэўна ведае, што казіміраўцы дамоў не вернуцца.

Вайну я сустрэў загадчыкам пачатковай школы на Беласточчыне. (У мяне, праўда, было ўсяго два курсы завочнага педтэхнікума, але я быў камсамольцам, сакратаром тэрытарыяльнай арганізацыі, а гэта важыла больш, чым дыплом аб навучанні ў інстытуце, так што Плёскае райана мела ўсе падставы рэкамендаваць мяне на працу ў Заходняй Беларусі). І толькі ўвосень сорак першага прыбіўся да роднай хаты.

Калі на першыя пытанні былі дадзены адказы, я спытаўся яшчэ пра Міклу.

— Дык жа адступіў з нашымі, — адказала маці. — Чаго баяцца, не разумею? Мабілізаваныя і тыя вярнуліся дамоў, ён жа быў белабілетнікам.

— Адступіў, бо патрыёт, — рашуча запярэчыў я. — А тыя, хто з арміі ўцёк — здраднікі.

Маці не стала спрачацца.

Неяк перацярпеўшы дзве халодныя партызанскія зімы, чатыры блакады, славуты ўшацкі прарыў, дзесяткі баёў, паходаў на чыгунку і шашу, праседзеўшы ў засадах па меншай меры сотню начэй, я пайшоў дабіваць Гітлера ў яго́най бярлозе, ды так і не дайшоў — параніла роўна за месяц да перамогі; вярнуўся дамоў толькі ў пагодлівы верасень сорак пятага года.

У лістах са шпіталя я не раз пытаўся ў маці пра Міклу, а яна нечага ўсё забывалася напісаць пра яго. Таму з трывожнай душою я спытаўся ў маці, калі вярнуўся са шпіталя.

— А што з Міклам, — і чакаў нейкай сумнай весткі, нават падрыхтаваўся да яе.

— А нічога, — адказала маці. — Жыве. Навёз усякага дабра. Казаў, да самай смерці хопіць.

Мяне аж разабрала цікаўнасць. Не верылася, што з вайны можна вярнуцца багачом. А што Мікла ваяваў, я ведаў з яго́ных пісьмаў, дзе, праўда, было шмат пахвальбы, але ж хто не пахваліцца, калі ўдалося прайсці цераз пекла адступлення, падмаскоўныя баі, сталінградскую эпапею, пракрочыць на сваіх двайх па ўсёй усходняй Нямеччыне. Мы і перасталі з ім перапісвацца толькі пасля таго, як мяне параніла. Таго ж дня я завітаў да Міклы.

Ён сустрэў мяне размашыста, з паказной шчырасцю, калі госць патрэбны, каб пахваліцца сваім багаццем, дзелавітасцю і ўдачлівасцю. На стол былі пастаўлены бляшанкі амерыканскай тушонкі і англійскага бекона, пакладзены хлеб, сала, салёныя агуркі. Само сабой, стаяла і пляшка гарэлкі. У матчыным доме такіх прысмакаў не было. І я, умінаючы закусь за абедзве шчакі, слухаў траюраднага брата трохі скептычна. Можа, яшчэ і таму, што Мікла гаварыў манерна, неўпапад, ужываючы пачутыя ім словы.

— Я табе так скажу, — спавядаўся ён, — у вайне свой асарцімент. Хто я, ваабчэ кажучы? Званне — старшына, як па-нашаму, па-мужыцку, дык папіхач. А бывала так, што перада мной і генерал стаяў без субардынацыі, тоісь, проста кажучы, клянчыў: «Памажы, Мікалай Васільевіч, не забуду». Ваабчэ, памагаў, бо не памагчы генералу было б не па-інтэрнацыянальнаму. Мы ж адной партыі і, ваабчэ, як пралетарыі і перадавы атрад павінны памагаць рэпрэсіраваць усякую фашысцкую погань.

— Аняго ж, навёз усякага дабра, — пачала хваліцца і Міклава маці, Лізавета. — Навёз! А жаніцца не хоча.

— Дзеўкі падхадзяшчай няма, — адмахнуўся ад яе Мікла.

— Што праўда, дык праўда, — падтрымала сына Лізавета, — падхадзяшчай дзеўкі няма.

— А Дашка Паўлюкова, — успомніў я пра дваюрадную сястру.

— Дык жа яна беспасажніца, — замахала рукамі Лізавета.

— Дзела не ў пасагу, — важна мовіў Мікла. — У мяне, можа, куры грошай не клююць. Мне яе абвал твару не падабаецца, круглы такі, як поўня, а я круглых не люблю. Ды і твар у яе кірпічна беларускі.

Я аж паматаў галавой, каб лепей зразумець, што меў на ўвазе Мікла: абвал, гэта, безумоўна, авал, ну, а кірпічны — перакаверканае рускае слова «типичный»?

— Паглядзі, Рыгоравіч, якое ў нас цяпер багацце, — павяла мяне ў святліцу Лізавета. — Далібог, нашаму Колю нямашака тут пары. Возьме якую караўку, дык яна гэтае дабро за пяць гадоў парашыць, а яно ж і Колевым унукам паслужыць.

І заля і спальня былі застаўлены дарагой, перламутрам інкруставанай мэбляй. А Лізавета яшчэ адчыніла дзверкі серванта і хельгі, каб паказаць мне сервізы, чаркі, фужэры, крышталёвыя салатніцы, цукерніцы і яшчэ Бог ведае якi разрознены посуд.

— І як гэта ты ўхітрыўся? — здзіўлены ўбачаным, спытаўся я.

Мікла падміргнуў:

— Дзеляць каравай, дык і ты не зявай...

Я так і не зразумеў, што ён хацеў сказаць.

І зноў нашы сцежкі разышліся. Я настаўнічаў усё ў той жа Заходняй Беларусі, на Пастаўшчыне, завочна, за адну сесію, дакончыў педтэхнікум, паступіў ва універсітэт, а там узяўся за пяро, стаў журналістам. З часам забраў да сябе маці, павыдаваў сясцёр замуж і на малой сваёй радзіме цяпер бываў ад выпадку да выпадку, калі ўжо не было як цярпець настальгію па родным куце.

Мікла так і мадзеў у вёсцы са сваёй нямецкай мэбляй і посудам. Можа, таму і не жаніўся. Жыў багатым бабылём. Так было і больш незалежна, казаў ён сам. Хоць залежнасць была — Мікла добра прыахвоціўся да чаркі. Дар'я казала, што часам запоі даходзілі да двух тыдняў.

Усё гэта прыгадалася, пакуль мы ехалі з Міклам на санях па расквашанай дарозе да вёскі. Мікла ўсю дарогу сварыўся, абураўся парадкамі.

— Тоісь, — казаў ён, — аніякага парадку ў людзях. Прыехаў канавакапальнік з грэйдэрам. Адзін канаву капае і гліну на дарогу выкідвае, а другі яе разраўнівае. Во, і зрабілі кашу, а каму яе расхлёбваць — нам жа, калгаснічкам. Ты вось што, сёння не прыходзь, сёння я павінен гэтых мальцаў аддзячыць. На гэтым і амбец. У нас цяпер, як той казаў, поўны плюралізм — хто што захоча, пра тое і балбоча. А мне дужа хочацца з табой па палітыцы пахвіласофстваваць, каб ведаць, якой лініі трымацца.

Я пагадзіўся, нават прапанаваў зайсці не заўтра, а паслязаўтра. Мікла рашуча адказаў:

— Ніякіх паслязаўтра. Каб не гэтыя дровы, дык мы сёння сустрэліся б. У мяне душа, як вулкан, перагрэта трудным роздумам на радыкальным раздарожжы.

— Радыкальным, хацеў ты сказаць? — папраўіў я Міклу.

— Адзін хрэн, — адказаў Мікла.

У асенняй імжы пад нізкім небам вёска нагадвала мокрых курэй, якія разбрыліся па полі. Яна наводзіла журбу, але і выклікала тупое раздражненне. Ад нядаўняй настальгii ўжо не засталося і следу. Я пайшоў праведаць Міклу на другі канец вёскі не па дарозе, а па сенажаці. З яе веска выглядала пачварна, выстаўляючы напаказ абы-як збітыя з гарбыльёў прыбудоўкі, што служылі і сенцамі і кладоўкамі рознага барахла, пахілыя хлеўчукі з прылепленымі да іх шпакоўнямі прыбіральняў, якія свяціліся шырокімі шчылінамі, стажкі сена пад цэлафанам, прыцiснутым абы-чым, толькі б не здзіраў яго вецер.

Міклава падвор'е з тылу выглядала ніштавата. Перад вайной, калі Геронькіна хата з усімі пабудовамі перавандравала з хутара ў вёску, Міклаў бацька абшыў яе дошкамі, прыбудаваў сені-веранду, перакрыў страху чарапіцай, ператрос хлеўчыкі, свіран, пуню, зрабіўшы з іх адну будыніну пад агульным дахам, дзе хапала месца і жывёле і кармам для яе. Затое знутры хата выглядала так, нібы ў ёй чэрці пераначавалі. На падлозе гразь, на стале нейкія аб'едкі. Сярод іх паходжваў воран, шукаў спажыву. Жах і запусценне давяршала мэбля, тая самая, прывезеная з паверженай Германіі. Паламаныя дзверкі, абабітыя вуглы, павыбітае шкло, пасечаныя інкруставаныя паверхні, спружыны, што тырчэлі з мяккіх крэслаў і канап — на ўсё гэта было балюча і брыдка глядзець. Бадай, засталася адна мэблевая адзінка — скураное вальтэраўскае крэсла, у якім цяпер і сядзеў Мікла, пасмоктваючы тоўстую самакрутку з тытуню.

— А-а-а, братуха, — закрычаў ён лішне ўзрадавана, што сведчыла толькі пра адно — Мікла добра наступіў на корак. — А я ў шторм трапіў. Хана мне, братуха, поўны і беспаваротны амбец. Цяпер ужо не выкручуся ды і навошта?..

Ён ускочыў, замітусіўся, чамусьці зазірнуў у печ, але тут жа і прыкрыў чалеснікі засланкай. Яго́ныя рухі былі рэзкія, бязладныя, і мне падумалася, што і сапраўды Міклу ўжо не выбрацца з гэтага запою. А ён тым часам пачаў выганяць ворана з хаты.

— Ліха з ім, хай застаецца. Нам ён не перашкодзіць, — паспачуваў я ворану.

— Ага, не перашкодзіць, фашыст гэты. Ён жа так і наравіць, гад печаны, дзеўбануць цябе — чаму не звяртаеш на яго ўвагу. Ды каб куды, а то ў галаву, у твар.

Абараняючыся ад Міклы, воран і праўда адчаянна кідаўся, разы два дзеўбануў таго ў руку. Але Мікла ўсё ж перамог, воран быў выгнаны з ганьбай.

Змёўшы са стала на падлогу аб'едкі, Мікла запрасіў сядаць за стол, паставіў на яго цёмную бутэльку на тры чвэрці літра.

— Першачок, — пахваліўся ён.

— Схавай і сваю, і маю,—параіў я, падаючы Міклу пляшку «Пшанічнай», атрыманую па талону.

Мікла нават абурыўся:

— Ну і братуха! Ты што ж думаеш, я такую пакуту вытрымаю? Зараз я свежанінкі падсмажу. Заўчора забіў кабанчыка. Хацеў разабраць ды пасаліць, а потым падумаў: навошта? Павесіў у свірне, прыходзь, адразай кавалак, які табе спадабаецца, і на патэльню.

Збегаўшы ў свіран, Мікла прынёс кавалак кумпяка, падсмажыў, паставіў патэльню на стол.

Мне не хацелася ні яго свежаніны, ні гарэлкі, але адмовіцца не выпадала: Мікла дужа бурны ў такіх выпадках крыўдаваў.

— Дык што там у вас, у сталіцы, дзеецца? — спытаўся ён, калі мы выпілі па чарцы.

— Тое, што і ў вас — перабудова.

— Кажуць, што камуністаў вешаць будуць.

— Зімой казалі, што будуць яўрэйскія пагромы...

— Дыму без агню не бывае...

— А табе чаго баяцца?..

Міклу выключылі з партыі гадоў дваццаць пяць назад, калі судзілі за злоснае хуліганства і далі тры гады ўмоўна. Яму, мабыць, здавалася, што я пра гэта не ведаю, і ён разыгрываў перада мной гэткага актыўнага бальшавіка.

— Баяцца ёсць чаго, — адказаў Мікла. — Давай, вып'ем. Дужа ў нас галовы цвярозыя, каб гаварыць пра палітыку.

Ён наліў сабе запар дзве чаркі, выпіў і раптам расплакаўся, як малое дзіця — шчодра на слёзы.

— Чаго сырасць разводзіш? — крыкнуў я на яго.

— Сябе шкада...

— Шкада, а п'еш...

— Ды не таму шкада, што п'ю, а п'ю ад таго, што сябе, дурнога, шкада. Нічога вы, вучаныя, не разумееце. Зусім анічога. Як ты мяркуеш, з кім п'еш?.. Са сволаччу, во з кім. Сволаччу нарадзіўся, сволаччу і памру. Хочаш, я табе на чыстату ўсё выкладу?..

Мне былі вядомы гэтыя п'яныя пакаянні алкашоў — шчырыя ды зусім не жыццёвыя. Каюцца, заракаюцца не піць і тут жа парушаюць слова.

— Я не поп — не спавядаю, — рашуча сказаў я.

— А калі я хачу спавядацца?

— Ідзі да папа...

— Гэта па нашай гразі? Я яшчэ пры сваім розуме.

Можа, толькі цяпер я зразумеў, што ехаў сюды марна, сапсуў такія ўстойлівыя ўражанні аб прыгожым дзяцінстве. Усё перабрадзіла, ператварылася ў кіслы, пякучы воцат. Мінулае вярталася да мяне ў выглядзе запойнага алкаголіка, траюраднага брата Міклы і дваюраднай сястры Дар'і, якая ўсё жыццё спрабуе задаволіць бяздонныя запатрабаванні адзінай сваёй дачкі Святланы, што прыязджае да маці толькі з аднoй мэтай — абабраць.

— Мне, бадай, час ісці, — узняўся я з услона. — Цяпер рана цямнее, Дар'я стане хвалявацца.

— Хто? Дар'я?.. Рассмяшыў. Жмiнда яна, во хто. Скажы, яна цябе хоць мёдам пачаставала?

— Сёлета ж узятка не было, — пачаў я абараняць сястру.

(Працяг на стар. 10).

студыя пры «Песнярах» не мела вялікага плёну, што маладыя беларускія выканаўцы не выказваюць значнага жадання, як некалі ён сам, «паставіць» на беларускую карту.

**Тут Мулявін напэўна памыляецца, як *памыляюцца* і тыя з маіх маладзейшых і больш шырокаадукаваных за мяне калег, што называюць «Песняроў» «рускім ансамблем». Мулявін уласнымі, можна сказаць, рукамі вывеў на сцэну тыя калектывы, якія пасля пакутлівых пошукаў звярнуліся да слухачоў па-беларуску. Без яго, Уладзіміра Георгіевіча Мулявіна, у нашай ідэалагічна насмерць загартаванай рэспубліцы наўрд ці прарэзаліся б нацыянальныя інтанацыі ў музыцы «Мроі», акрэслілася ўзорная стылёвасць «Уліса». У рэшце рэшт, здабыткі музыкантаў гэтых груп не толькі іх уласны плён. «Конь незацугляны!» — неяк пачуў я пра Мулявіна, і цяжка было зразумець, чаго ж больш было ў голасе маладога рокера — зайздрасці ці пашаны...**

Уладзімір Мулявін і сапраўды быў першы, у той час як многім радыкалам з шэрагаў бел-чырвона-белай змены яшчэ трэба будзе сапраўды сцвердзіць сябе ў гэтым складаным свеце. Лягчэй за ўсё руйнаваць помнікі, ды як бы на іх месцы неўпрыкмет не паставіць свае, куды больш недарэчныя.

Вось і тут скрыжоўваюцца палітыка з мастацтвам...

***Мулявіна можна назваць*** **адкрытым чалавекам. Яшчэ ў пачатку 70-ых яго, як тады сцвярджалі, можна было проста спыніць на вуліцы і папрасіць медыятар. Летась, запрасіўшы журналістаў на нефармальную гутарку з нагоды юбілею «Песняроў», ён быў, думаю, здзіўлены, убачыўшы лічаных прадстаўнікоў прэсы. Мулявін — чалавек валявы, бо неаднойчы паўтараў: мы яшчэ не зрабілі і палову з таго, што намечана. Думаю, не пра імідж ён, а пра ідэю дбае. Ён — чалавек ганарлівы, любіць быць калі не ў самым цэнтры ўвагі, дык недзе побач, любіць прэстыжныя залы і ўрачыстыя тэлеперадачы. Уладзімір Мулявін наўрад ці лічыць сябе вялікім спецыялістам у вакальным мастацтве, але тым не менш здолеў стварыць і ўтрымаць «фірменны саунд», што ў папулярнай музыцы справа далёка не апошняя. Пра Мулявіна можна казаць, што ён чалавек чулы, і пакаянне для яго рэч не тое каб будзённая, але і не чужая: ён неяк прызнаўся, што не з усімі колішнімі музыкантамі «Песняроў» развітаўся належным чынам.**

Пра Уладзіміра Мулявіна можна яшчэ сказаць...

А чаму трэба пра яго казаць? І што? Ён проста — творчы чалавек.

Ён з ліку сапраўдных музыкантаў, якія шчыра граюць так, як здольныя. Гэтак жа сама і Мулявін сказаў бы за сябе — зробленым, усім тым, што ўжо здолеў зрабіць. І лепш чым імправізаваць «нешта такое яшчэ» на тэму 50-годдзя Мулявіна, прапаную паслухаць яго самога.

Бо калі музыкант вырашае зрабіць чарговы крок насустрач слухачам, ён упэўнены, што мае ім нешта сказаць, не паўтарыўшы пры гэтым іншых і — сябе.

Давайце паслухаем Мулявіна!

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**

**КІНО**

# ЗДЫМАЮЦЬ... МУЗЫКУ ДУШЫ

...Калі Аляксей Іванавіч Вельчанінаў прачнуўся, дык здзівіўся — пасля ўсяго, што чаўплося між ім і Паўлам Паўлавічам Трусоцкім апошнім часам, убачыць яго ён ніяк не чакаў. Яшчэ больш здзівіўся Аляксей Іванавіч, калі Павел Паўлавіч звярнуўся да яго з просьбай, якая ў першае імгненне здалася яму неверагоднаю, але праз некаторы час ён згадзіўся яе выканаць...

У павільёне кінастудыі «Беларусьфільм» здымаецца адзін з эпізодаў апавядання Ф. М. Дастаеўскага «Вечны муж», якое экранізуе рэжысёр Яўген Маркоўскі. У ролі Вельчанінава — І. Касталеўскі, у ролі Трусоцкага — С. Любшын.

Новая спроба ўвайсці ў складаны, напоўнены моцнымі пачуццямі і пакутамі свет вялікага пісьменніка... Між іншым, гаворка ідзе пра твор, які сам Дастаеўскі лічыў «прахадным». Ён стварыўся паміж «Ідыётам» і «Бесамі», калі пісьменнік быў заклапочаны няўдалым лёсам першага і цяжкасцямі стварэння другога рамана. Дастаеўскі нібыта «звузіў» сваю творчую задачу. Потым твор разросся ў параўнанні з першапачатковай задумай (дасягнуўшы аб'ёму «Бедных людзей» або «Іграка», што пазначаны аўтарам як раманы), аднак, Дастаеўскі ўсё адно лічыў яго «апавяданнем».

Пісьменнік апавядае пра людзей, якіх сам у «Ідыёце» назваў ардынарнымі. Паказвае сваіх герояў у момант, калі яны да такой ступені збіты з тропу, што з людзей нармальных робяцца «падпольнымі», завязвае іх адносіны ў такі тугі вузел, што ён ледзь не развязваецца злачынствам, а за недасканаласць свету разлічваецца смерцю, як гэта часта бывае ў Дастаеўскага, самая бязвінная істота — дзіця.

Выканаўцы галоўных роляў упершыню ўвасабляюць герояў Дастаеўскага. Што ёсць для іх гэтая работа?

— Сярод той поўнай дэградацыі, якая нас акаляе, — кажа Ігар Касталеўскі, — зварот да Дастаеўскага—гэта тое, што можа выратаваць душу. Тая версія апавядання, якую мы прапануем, здаецца мне найбольш дакладнай, альбо — найбольш перспектыўнай. Што да маёй ролі, дык каго б я ні іграў, мне важна «працягнуць» вобраз праз уласнае жыццё. Дачыненні Вельчанінава з Трусоцкім вельмі складаныя. Гэтыя людзі маглі б быць сябрамі, і тады кожны з іх быў бы іншым.

С. Любшын таксама лічыць гэтую ролю найважнейшай для сябе цяпер, хоць у яго ёсць цікавыя ролі ў «Князі Сярэбраным», камедыі «Шкура».

— Трусоцкі — гэта і трагічная фігура, і смешная, і слабая. У ім і Карамазаў, і Мышкін. «Вечнага мужа», як аказваецца, амаль ніхто не чытаў. Гэта вельмі складаны твор і вельмі кінематаграфічны. Некаторыя эпізоды нібыта ўжо раскадраваны... самім Дастаеўскім, які піша музыку душы... Камерную гісторыю ён пашырае да агульначалавечых межаў. Тут найдакладнейшая псіхалогія расійскай душы.

Атмасфера раскаванай творчай фантазіі, якая пануе на здымках, дакладны выбар акцёраў на галоўныя ролі, асаблівасці мастацкага почырку рэжысёра Я. Маркоўскага (ён вядомы па тэлефільмах «Як я быў вундэркіндам», «Летнія ўражанні пра планету «Зэт», кінафільма «Філіял»; дарэчы, ён выступіў у экранізацыі Дастаеўскага і ў якасці аўтара сцэнарыя) дазваляюць спадзявацца на ўдачу.

**Ларыса ЗАЙЦАВА.**
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.



Ігар КАСТАЛЕЎСКІ (Вельчанінаў).



Рабочы момант здымак.

# З НАГОДЫ ДВУХ ЮБІЛЕЯЎ

З нагоды юбілею купалаўцаў агенцтва БЕЛТА распаўсюдзіла інфармацыю, якую змясцілі, у прыватнасці, і бабруйскія газеты. У ёй гаворыцца: «Лепшыя творы нацыянальнай драматургіі — «Паўлінка» Я. Купалы і «Трыбунал» Макаёнка... упершыню ўбачылі святло рампы менавіта ў купалаўцаў».

Газетныя публікацыі, падобныя да гэтай, з'яўляліся ўжо неаднойчы, і вось што хацелася б у сувязі з гэтым сказаць.

Камедыя Я. Купалы «Паўлінка» ўпершыню была пастаўлена не ў купалаўскім тэатры. Яшчэ ў 1913 годзе яна ішла ў Беларускім музычна-драматычным гуртку ў Вільні, у Пецярбургскім беларускім студэнцкім гуртку, у Мінскім драматычным гуртку. Затым, у 1917 годзе, «Паўлінку» паставілі на сцэне Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, і ўжо ў 1920 годзе яна, як піша агенцтва, убачыла святло рампы ў будучых купалаўцаў. Але ж далёка не ўпершыню.

Усе гэтыя звесткі агульнавядомыя, хоць, здаецца, і не ўсім. Я б хацеў паразважаць аб тым, чаму сам быў сведкаю.

На працягу амаль дванаццаці гадоў у нашым друку настойліва сцвярджаецца думка, што і «Трыбунал» А. Макаёнка ўпершыню быў пастаўлены ў купалаўскім тэатры. На самай справе гэта п'еса ўпершыню ўбачыла святло ў бабруйскім тэатры, які тады зваўся «2-гі Магілёўскі абласны драматычны», затым — у Вільнюскім рускім, пасля — у тэатры імя Якуба Коласа, а ўжо праз колькі месяцаў — у купалаўцаў.

Добра памятаю, як на пачатку 1970 года мы перамаўляліся з А. Макаёнкам, як у нялёгкіх умовах арганізацыі новага тэатра ў Бабруйску рыхтавалі гэты спектакль, як шчыра цанілі тое, што наш выдатны драматург аддаў сваю новую п'есу менавіта нам, бабруйчанам.

У мяне асабіста было шмат сустрэч з Андрэем Ягоравічам (я тады працаваў дырэктарам бабруйскага тэатра). Ён часта наязджаў да нас — і на прэм'еру «Трыбунала», і на соты спектакль, і на двухсоты. А ўвогуле, «Трыбунал» прайшоў у нас больш за 600 разоў, і гэта за параўнальна кароткі тэрмін.

Дарэчы, соты спектакль па жаданні А. Макаёнка быў прызначаны для паказаў на яго радзіме, у вёсцы Журавічы, што на Гомельшчыне. І калі аўтар ужо выехаў на спектакль, мне паведамілі, што Гомельскі аддзел культуры паказваць там «Трыбунал» забараніў: спаслаўся на тое, што папярэдне гэта «мерапрыемства» не было з ім узгоднена!.. Я тэрмінова звярнуўся да тагачаснага намесніка міністра культуры рэспублікі Ю. Міхневіча, чалавека, скажам так, прагрэсіўных поглядаў. Праз гадзіну-другую дазвол быў атрыманы, і «Трыбунал» прайшоў з вялікім поспехам. Зразумела, перад пачаткам на сцэну падняўся «прэзідыум» на чале са старшынёй мясцовага калгаса, былі прамовы, нейкія справаздачы на фоне чырвоных транспарантаў — усё ў духу тых часоў.

Сёння А. Макаёнка завуць выдатным драматургам. А тады ж, на пачатку 70-га, яго новую п'есу не адважыліся ставіць у купалаўскім тэатры. Магчыма, гэта і было адной з прычын таго, што «Трыбунал» А. Макаёнак перадаў нам, бабруйчанам.

Прызнацца, абстаноўка была ў нас тады асаблівая. Тэатр музычнай камедыі, што працаваў у Бабруйску, быў расфарміраваны — засталіся толькі дырэктар і бухгалтар, а новы, драматычны, яшчэ толькі збіраліся ствараць. Ніводнага артыста ці рэжысёра ў штаце, зразумела, не было.

Азнаёміўшыся з новай п'есай Макаёнка, я выклікаў тэлеграмай рэжысёра У. Шыманскага, запрасіў мясцовых артыстаў, што былі тады без работы, — П. Масцерава, Н. Калаптур, Л. Падбярозкіну, Я. Гоўшу, Б. Баева, Ю. Саевіч, і мы зрабілі своеасаблівую змову — рыхтаваць «Трыбунал» інкогніта, каб ніхто не ведаў, а ўжо потым, як зробім, паставіць начальства перад фактам.

Справа была рызыкоўная, але мы на гэта пайшлі. Я выдаў загад — па сутнасці, незаконны, артыстам пачалі налічваць зарплату і справа зрушылася. На што я тады разлічваў? Я верыў у п'есу, верыў у артыстаў, верыў у рэжысёра, наогул — у здаровы сэнс. Акрамя таго, разам з бухгалтарам падлічваў, што пакуль даведаюцца пра нашу змову, мы ўжо выпусцім спектакль (і будзем мець тысяч з дзесяць прыбытку!).

Амаль так яно і выйшла: справу, распачатую ў красавіку, «рассакрэцілі» ажно ў лістападзе... Усё абышлося простай вымовай.

З усёй адказнасцю бяруся сцвярджаць, што А. Макаёнак быў шчыра задаволены нашай пастаноўкай. І наогул, ён быў тады прыкметна ўзбуджаны. Перад прэм'ерай ён вярнуўся з-за мяжы — адвёз у Амерыку бюст нашага вялікага песняра Янкі Купалы, які ўстанавілі ў адным з паркаў Нью-Йорка. У шчырай гутарцы Андрэй Ягоравіч казаў, што сюжэт яго п'есы «Зацюканы апостал» быў навеяны, у прыватнасці, і гэтай заакіянскай паездкай. Помню, Андрэй Ягоравіч раз-пораз засмучаўся: «Шкада, шкада, наш вялікі Янка доўга ў Нью-Йорку не прастаіць — бюст жа не з мармуру, а з гліны»...

Наш «Трыбунал» даўно ўжо адышоў у гісторыю. Што мы цанілі ў ім больш за ўсё? Рэалізм. І менавіта той рэалізм, макаёнкаўскі, што праяўляўся не толькі ў знешніх атрыбутах п'есы і спектакля — кажуху, валёнках, футры ці рукавіцах, а ў тым народным разуменні подзвігу, калі ў цэнтр падзей стаўіцца не шматзоркавы генерал, а звычайны вясковы пастух. П'еса «Трыбунал», бадай, адзіная ў айчыннай драматургіі, дзе ваенная тэма падаецца ў камедыйным жанры. Яе смела можна ставіць побач з такімі антываеннымі камедыямі, як «Кар'ера Артура Уі» Б. Брэхта і «Дыктатар» Ч. Чапліна...

З тае пары прайшло дваццаць гадоў. Час няўмольны — не стала А. Макаёнка, памерлі выканаўцы галоўных роляў у першым «Трыбунале» засл. арт. БССР П. Масцераў і Н. Калаптур, трагічна загінуў рэжысёр У. Шыманскі... Але ж памяць павінна жыць. Памяць аб гэтых людзях, і аб іх часе, і аб іх справах, адной з якіх і была першая пастаноўка п'есы А. Макаёнка «Трыбунал», і менавіта *на беларускай сцэне.*

**Г. ВАВУЛА,**
**тэатразнаўца.**

# СМАТРЫЦКІ І УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА

**Каб ведаць і разумець гісторыю свайго народа, трэба ведаць і гісторыю рэлігіі, складаныя ўзаемаадносіны паміж рознымі яе плынямі і канфесіямі. На Беларусі, напрыклад, вялікую ролю адыграла, як вядома, уніяцтва. Гэтай тэме былі прысвечаны артыкулы ў «ЛіМе» Ю. Драгуна «Уніяцтва і дзяржаўная палітыка» (5.1.90 г.) і «Скасаванне уніі» М. Хаўстовіча (5.X.90 г.)**

**Сённяшняя публікацыя расказвае аб драматычным лёсе працўніка Уніі — праваслаўнага святара Мялеція Сматрыцкага і гістарычных падзеях на Беларусі ў XVII ст.**

Трагічная гісторыя нашай Бацькаўшчыны. Трагічным было скасаванне Уніі. Але не менш трагічным было і яе ўвядзенне. Куды ні кінь — усюды клін. Такі ўжо, відаць, наш беларускі лёс.

«Дзе той бясцэнны камень, які я паміж іншымі перламі, як сонца паміж зоркамі, насіла на галаве маёй? Дзе дом князёў Астрожскіх, сіяўшых больш усіх іншых святлом сваёй старажытнай веры? Дзе іншыя каштоўныя камні той жа кароны: князі Слуцкія, Заслаўскія, Вішнявецкія, Збаражскія, Сангушкі, Чартарыйскія, Пронскія, Ражынскія, Саламярэцкія, Галаўчынскія, Красінскія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія, Лукомскія, Пузыны і іншыя, якіх пералічаць было б занадта доўга?»

Так праваслаўная царква вуснамі Мялеція Сматрыцкага аплаквала страту сваіх лепшых сыноў, прыняўшых каталіцтва і уніяцтва.

«Дзе іншыя мае каштоўнасці, дзе старажытныя, знатныя, моцныя, ва ўсім свеце славутыя сваёй мужнасцю і доблесцю: Хадкевічы, Глебавічы, Кішкі, Сапегі, Дарагастайскія, Войны, Валовічы, Зяновічы, Пацы, Халецкія, Тышкевічы, Корсакі, Храптовічы, Трызны, Гарнастаі, Мышкі, Гойскія, Гулевічы, Ярмолінскія, Каліноўскія, Кірдзеі, Загароўскія, Мялешкі, Багавіцыны, Паўловічы, Сасноўскія, Скуміны, Пацэі?»

Напісана гэта было ў Вільні ў 1610 г. Каштоўнасць напісанага перш за ўсё ў тым, што тут мы можам прасачыць «міграцыю» старажытных беларускіх шляхецкіх родаў з праваслаўя ў каталіцтва, уніяцтва і пратэстанцтва. Нам з дзяцінства ўбівалі ў галаву розныя абэцэдарскія, што ўсе гэтыя Хадкевічы, Глебавічы, Валовічы, Мялешкі і Сапегі — палякі, а беларусы гэта тыя прыгонныя мужыкі, якіх Расія вызваліла з-пад панска-польскага прыгнёту. Але ж калі ўсе яны прыйшлі з праваслаўя, дык гэта значыць, што карані іх не на польскай зямлі, а на нашай беларускай і ўкраінскай землях. Гэта ўжо пасля, калі Вялікае княства Літоўскае было захоплена Расіяй, многія з гэтых беларускіх шляхецкіх родаў па розных прычынах пачалі лічыцца палякамі. А тады, у часы Княства, усе яны — католікі, праваслаўныя, уніяты, пратэстанты і кальвіністы—лічылі сябе ліцвінамі і на іх, як на моцным падмурку, трымалася Вялікае княства Літоўскае.

Не толькі каталіцтва пагражала праваслаўю. З Польшчы і іншых суседніх краін у Княства хлынуў пратэстантызм. У 1525 г. прускі Тэўтонскі ордэн адпаў ад рымскай царквы разам са сваім магістрам Альбертам, які прыняў тытул герцага. У гэтым ордэне і сталі з'яўляцца пераклады пратэстанцкіх грамат на беларускую мову, якая ў той час была дзяржаўнай моваю Вялікага княства Літоўскага. Галоўным распаўсюджвальнікам пратэстанцтва ў Княстве быў Аўраам Кульва, які вучыўся ва універсітэтах Паўночнай Германії і атрымаў там ступень доктара.

Яшчэ больш паспяхова прывіваўся кальвінізм, падтрыманы Мікалаем Радзівілам Чорным, стрыечным братам каралевы Варвары, жонкі Сігізмунда-Аўгуста. Самому каралю Сігізмунду было ўсё роўна, куды ехаць маліцца — у касцёл ці ў кірху, але кароль, пратэжыруючы пратэстантам, спрыяў і праваслаўным. З паслабленнем каталіцкай прапаганды ў часы праўлення караля Сігізмунда-Аўгуста праваслаўнае насельніцтва Княства перастала варожа адносіцца да караля і польскага ўрада. Таму на Люблінскім сойме палітычны саюз дзвюх дзяржаў Літвы і Польшчы быў прызнаны неразрыўным і па спыненні (кароль Сігізмунд быў бяздзетны) дынастыі Ягелонаў.

Польшча і Вялікае княства Літоўскае зліліся як дзве раўнапраўныя палавіны ў адну дзяржаву і пачалі называцца Каронай і Княствам, а разам — Рэччу Паспалітай (Respublica). Гэта была па-рэспубліканску пабудаваная выбарная манархія, на чале якой стаяў кароль, выбраны агульным соймам Кароны і Княства. Заканадаўчая ўлада належала да сойма, які складаўся з земскіх паслоў, дэпутатаў шляхты, і сената, у якім сядзелі вышэйшыя свецкія і духоўныя саноўнікі з Кароны і Княства. Каталіцкая прапаганда, якая з'явілася ў Княстве разам з езуітамі ў 1569 г., вельмі хутка перамагла тут пратэстанцтва і накінулася на праваслаўе. І тады сярод вышэйшай праваслаўнай іерархіі, дэмаралізаванай і прыгнечанай католікамі, узнікла думка аб уз'яднанні з рымскай царквой.

На Брэсцкім саборы ў 1596 г. царкоўная грамадскасць Княства распалася на дзве варожыя часткі — праваслаўе і уніяцтва. Гэты працэс хутка захапіў як Вялікае княства Літоўскае, так і Кіеўшчыну, Валынь, Галіцыю, якія ў той час належалі да Кароны. Уніяты намагаліся ўсе віленскія храмы адабраць на карысць Уніі і скасаваць у іх праваслаўнае богаслужэнне. 21 чэрвеня 1610 г. страшэнны пажар знішчыў лепшую частку Вільні. Згарэлі багатыя каталіцкія манастыры (Францысканскі і Дамініканскі), каталіцкая семінарыя, езуіцкая калегія, кафедральны касцёл св. Станіслава, сабор кальвіністаў, сінагога і некалькі цэркваў, адабраных на Унію. Пашкоджаныя пажарам будынкі горада праз некаторы час былі адбудаваны, але загінулі многія бясцэнныя помнікі беларускай даўніны. Загінула шмат рукапісных кніг па гісторыі Бацькаўшчыны на беларускай мове, а таксама кніг, надрукаваных Францыскам Скарынай. Гэты ўдар быў настолькі непапраўны, што за ім хутчэй пайшло акаталічванне і апалячванне беларускай шляхты. У Вільні толькі Святадухаўскі манастыр са сваім брацтвам цвёрда і нязменна захоўваў і абараняў праваслаўе. У ліку брацчыкаў былі знатныя людзі, такія, як князі Агінскія (тады праваслаўныя!), а таксама смаленскі ваявода Абрамовіч, і яны, карыстаючыся правам патронства, адстаялі маёмасць брацтва і Святадухаўскую царкву, пабудаваную на прывілеяванай шляхецкай зямлі.

Адначасова пачалася і вострая літаратурная палеміка паміж праваслаўем і Уніяй.

Найбольш яркім абаронцам праваслаўя і з'явіўся ў той час Мялецій Сматрыцкі. Ён скончыў езуіцкую калегію ў Вільні, вучыўся ў нямецкіх пратэстанцкіх універсітэтах, дзе добра пазнаёміўся як з каталіцкім і пратэстанцкім вучэннем, так і са свецкай навукай. Калі ж ён вярнуўся на Бацькаўшчыну, яго вельмі здзівіў і засмуціў хуткі пераход народа ў Унію і каталіцтва. У той час, як простыя гараджане рабіліся уніятамі, знатная шляхта пераходзіла прама ў каталіцтва. Смутак гэты выліўся ў кнізе, якую М. Сматрыцкі назваў «Плач адзінай апостальскай Усходняй царквы з тлумачэннем дагматаў веры» і выдаў яе ў 1610 г. у Вільні пад псеўданімам Феафіла Арталога. «Плач» зрабіў вялікае ўражанне на сучаснікаў і высока паставіў Сматрыцкага ў вачах праваслаўнага насельніцтва Княства. Найбольш значныя каталіцкія багасловы і пісьменнікі стараліся аслабіць уражанне «Плачу». Так, Скарга напісаў «Прадасцярогу Русі грэчаскай веры супраць Плача Феафіла Арталога», а Маразоўскі «Суцішэнне Плача Усходняй царквы, выдуманага Феафілам Арталогам». Не задавальняючыся такой палемікай, католікі і уніяты пастараліся здабыць ад караля Сігізмунда загад на канфіскацыю з друкарні Віленскага брацтва ўсіх экземпляраў «Плачу», каб спаліць іх, а саму друкарню адабраць. Брацтва прымушана было на нейкі час перанесці друкарню з Вільні ў маёнтак князя Багдана Агінскага ў Іўе і там працягваць друкаваць багаслужэбныя кнігі. У 1620 г. М. Сматрыцкі, будучы архімандрытам віленскага Святадухаўскага манастыра, быў пасвечаны на полацкую кафедру.

Пасля смерці ў 1618 г. полацкага уніяцкага архіепіскапа Гедэона Бральніцкага яго пераемнікам стаў архімандрыт віленскага Троіцкага манастыра Іасафат Кунцэвіч.

М. Сматрыцкі не мог быць абыякавым да поспехаў Уніі ў сваёй епархіі і стаў рассылаць прыхаджанам красамоўныя граматы, каб яны цвёрда трымаліся веры сваіх бацькоў. Але і Кунцэвіч праявіў фанатычную дбайнасць у справе распаўсюджвання Уніі. Такая дбайнасць выклікала вялікія хваляванні сярод праваслаўнага насельніцтва Княства. У Магілёве і Оршы па прыездзе Кунцэвіча зазванілі званы, і ўзброеныя гараджане зачынілі перад ім вароты. У адказ на яго скаргу свецкія ўлады асудзілі зачыншчыкаў на пакаранне смерцю. Адмянілі пакаранне толькі пад умовай прыняцця Уніі і перадачы ёй усіх магілёўскіх храмаў. Але жорсткасць Кунцэвіча да праваслаўных грамадзян выклікала нездавальненне вялікага гетмана літоўскага і віленскага ваяводы Льва Сапегі. У сакавіку 1622 г. ён адаслаў Кунцэвічу пісьмо, у якім абвінавачваў яго ў жорсткасці, а на скаргу Кунцэвіча адносна пагроз яго жыццю заявіў: «Кожны сам бывае прычынаю свайго няшчасця». Але нішто не магло ўтаймаваць фанатычнага уніяцкага свяшчэнніка.

Кунцэвіч прыбыў у Віцебск, грамадзяне якога асабліва варожа былі настроены супраць Уніі і з вялікім спачуваннем чыталі граматы М. Сматрыцкага. Кунцэвіч адабраў у праваслаўных усе віцебскія храмы і перадаў іх уніятам. Ды пры ўсёй сваёй варожасці да Кунцэвіча і Уніі віцьбічы да пары ўстрымліваліся ад насілля і збіраліся на багаслужэнні ў шалашах на ўскраіне горада. Кунцэвіч жа і тут не пакінуў іх у спакоі. Ён уносіў у суды розныя скаргі, абвінавачваў грамадзян у хваляваннях і патрабаваў пакарання. Тады віцьбічы пакідалі свае шапкі ў кучу ў знак канфедэрацыі і пачалі бунт. Узнікла змова з мэтай забойства Кунцэвіча. Раніцай 12 снежня 1623 г. пратадзякан Кунцэвіча Дарафей з дапамогаю слуг схапіў праваслаўнага свяшчэнніка, які ішоў за горад адпраўляць службу ў шалашы, і пасадзіў пад замок. Гэты выпадак быў апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу. Пад удары набатных званоў збегся народ, людзі ўварваліся ў пакоі самога Кунцэвіча і забілі яго. Цела было скінута з высокага берага ў Дзвіну. Гэтае здарэнне мела самыя трагічныя вынікі для праваслаўных. Многія грамадзяне былі пакараны смерцю, кінуты ў турмы, адлупцаваны бізунамі, выгнаны з горада. На пасаду полацкага архіепіскапа быў назначны не менш фанатычны і больш цвярозы Антоні Сялява. Віцебск быў пазбаўлены Магдэбургскага права, вечавы звон быў зняты, ратуша разбурана. Усе цэрквы передалі да Уніі і ўсе жыхары былі аб'яўлены уніятамі.

Але пацярпеў не толькі Віцебск, тую ж долю зазналі Магілёў, Орша, Мсціслаў і наогул уся полацкая епархія.

Уплыў Кунцэвіча на лёс Уніі працягваўся і пасля яго смерці. Цела яго асталі з Дзвіны, урачыста адвезлі ў Полацк і з пышнасцю пахавалі ў саборным храме. Уніяты акружылі яго памяць арэолам святасці і доўга распаўсюджвалі ў народзе легенды аб розных цудах, якія адбываліся пры магіле гэтага уніяцкага пакутніка.

Але самым вялікім цудам выстаўлялася імі пераварэнне М. Сматрыцкага з праваслаўнага ва уніята, як гаварылі — з Саула ў Паўла. Сматрыцкі пакінуў пасаду віленскага архімандрыта і адбыў у Канстанцінопаль і Палесціну. Падарожжа па Святой зямлі працягвалася каля двух гадоў. У Вільню ён ужо не вярнуўся і пасяліўся на Валыні ў багатым Дзярманскім манастыры, дзе яго патронам быў князь Аляксандр Заслаўскі. У 1628 г. М. Сматрыцкі напісаў і выдаў «Апалогію майго падарожжа на Усход», у якой ён даказваў, што адрозненні Уніі ад праваслаўя неістотныя, і што неўпарадкаванасць праваслаўнай царквы можа спыніцца толькі з аб'яднаннем яе з рымскай царквой. Памёр М. Сматрыцкі ў Дзярманскім манастыры ў 1633 г. А ў 1635 г. адбыўся сойм, на якім ад імя Караля былі выдадзены прывілеі праваслаўным і уніятам. За уніятамі назаўсёды засталося архіепіскапства Полацкае, епіскапствы Пінскае і Смаленскае з іх цэрквамі і манастырамі, а таксама віленскі манастыр Святой Троіцы. У Полацку, Віцебску і Навагрудку ўсе цэрквы і манастыры засталіся за уніятамі. Уніяцтва зрабілася пераважнай рэлігіяй на нашай Бацькаўшчыне.

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# УСЕ—НА ГАЗІФІКАЦЫЮ

**У мяне ў руках брашурка, выпушчаная Мінскім абласным Саветам народных дэпутатаў (друкарня «Победа» г. Маладзечна). Называецца яна — «Наказы народным дэпутатам БССР, дэпутатам абласнога Савета дваццаць першага склікання». Мяне, як жыхара Дзяржынскага раёна, гэтая брашура спачатку вельмі зацікавіла. А потым, калі разгарнуў... Чытаю. Наказ народнаму дэпутату БССР, намесніку старшыні Дзяржзабеспячэння БССР У. Чакушаву— газіфікаваць населеныя пункты Дзяржынскага раёна да 1995 года. У. Гаркуну, народнаму дэпутату БССР (пад час абрання працаваў першым сакратаром Дзяржынскага гаркома КПБ) — газіфікаваць у 1994—1995 гг. населеныя пункты Бароўскага, Путчынскага і Старыкаўскага сельсаветаў Дзяржынскага раёна». Такім чынам, абодва дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР з суседніх акруг «узяліся» за газіфікацыю аднаго раёна. Ім на дапамогу, як вынікае з брашуры, «кінуліся» дэпутаты Мінскага абласнога Савета. А. Шамаль, галоўны ўрач раёна, узяўся газіфікаваць вул. Астроўскага г. Дзяржынска; Л. Быкоўскі, дырэктар эксперыментальна- механічнага завода — вул. Камуністычную ў тым жа Дзяржынску; Л. Кадлубовіч, старшыня калгаса — вёскі Кукшавічы і Петкавічы Дзяржынскага раёна; Я. Шыкула, старшыня выканкома райсавета — саўгас «Путчына»; В. Караткоў, ваенком Мінскай вобласці — саўгас «Дзямідавічы» таго ж раёна. Спіс гэты можна доўжыць.**

**Як бачым, разнастайнасцю наказы не вызначаюцца: «вялікі» дэпутат бярэ вялікі кавалак работы, «меншы» — меншы. Але ж газіфікацыя раёна ёсць у планах сацыяльна - эканамічнага развіцця вобласці да 2000 года. Яна ўключана таксама ў планы аб'яднання «Мінаблгаз». Дык навошта ж тады гарод гарадзіць?**

**«Дэпутат нам газ абяцаў правесці», — радуюцца вяскоўцы. Дзіву даешся, гледзячы на гэтую наіўнасць выбаршчыкаў. А дэпутаты? Яны ёю карыстаюцца.**

**А. СУШКЕВІЧ.**
г.п. Фаніпаль
Дзяржынскага раёна.

ся самі сабе: няўжо гэтыя людзі нарадзіліся ў Сібіры, ніколі не былі на Беларусі, не бачылі і не чулі прышэльцаў адтуль? Але гэта сапраўды так.

Між песнямі згадваецца былое... Прыехалі, як расказвае Адэля Станіславаўна, у гэты дзікі край яе бацька з маткаю і яе старэйшымі братамі і сёстрамі яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя. Як і ўсе, ехалі па зямлю аднекуль з Віцебшчыны, больш дакладнага адраса не ведае, як і ніхто ўжо ў Тынгызе. А тут было — толькі высякай тайгу ды ўрабляй зямлю. Прыехалі, згадвалі потым бацькі, пасадзілі дзяцей пад бярозкаю, абгарадзілі і пачалі ставіць хацінку. Разам з яе бацькамі перабраліся і іншыя землякі, парваўшы канчаткова ўсе сувязі з радзімаю, са сваякамі, збярогшы толькі свой ранейшы лад жыцця і тое, чым цешылася па-за работаю душа, — абрады, звычаі, песні.

Успомнілася і самая вялікая трагедыя, якую перажыла Тынгыза за ўсю сваю векавую гісторыю. Трыццаць сёмы год. Пра яго яшчэ да нядаўняга часу баяліся тут успамінаць. Але сёння нашы субяседніцы ўжо без страху, без насцярожанасці расказваюць нам, незнаёмым людзям, як у той чорны год, 14 лютага, прыехала машына НКУСа і ў адзін дзень з 50-ці тагачасных двароў забрала ў нейкі Каінск (!) 14 маладых дужых мужчын, лепшых работнікаў вёскі — «кулакоў» у лапцях ды «трацкістаў» («тракцістаў» — вымаўляюць старыя жанчыны). Ніводзін з іх не вярнуўся да сваёй сям'і і ніхто іх больш не бачыў. Як жа ў гэту глуш, гэту далеч сягнулі кіпцюры сталіншчыны, якімі вачыма і хто выгледзеў у Тынгызе тых «тракцістаў»?! Не забыліся людзі, што пісалі даносы на вяскоўцаў свае ж—самыя лайдакі, зайздроснікі, якім нягож было глядзець на нястомных, працавітых суседзяў. Так засталася Адэля ўдавою ў свае 27 год — з чатырма дзецьмі і старой хворай свякрухаю, якую даглядала да смерці. «Вось ужо і самой 80 лет скора на двор прыйдзець... Век пражывеш — і прочкі, і ўсё зведаеш...», — кажа яна.

Вайна забрала ў Тынгызе меней мужчын — не вярнулася 12 чалавек, пяцёра прыйшлі дадому...

Зноў льюцца песні, якім канца-краю няма. Нячаста і ў нас натрапіш у адной хаце на такія ўловы. Адчуваем, што вясло наша не кранае мелі і яшчэ можна грэбці і грэбці: рэпертуар далёка не вычарпаны. Ды трэба не пазней паўдня выбрацца ў Каўбасу, бо транспарту ў той бок няма, паштальёнка на сваім возе ўжо выправілася туды па карэспандэнцыю. Значыць, пойдзем пехатою. Трэба заспець каго-небудзь у сельсавеце, каб, не трацячы часу, нас звялі з «фальклорнымі» бабулямі і заадно недзе прыстроілі на ноч. Тут жа на развітанне з нашымі спявачкамі фатаграфуемся на фоне акуратна складзеных бярозавых паленцаў. Вяртаемся да Мар'яны, падсілкоўваемся на дарогу, аглядаем яе ўзорныя грады (чым дастаўляем ёй вялікае задавальненне): цыбуля, буракі, часнык, морква, бручка, агуркі, памідоры. Усё тое ж, што і на беларускіх агародах, то нездарма ж, відаць, дзядыпрадзеды выбіралі ў гэтай Сібіры такую ж, як на радзіме, прыроду і глебу, каб жыць тым самым жыццём: бачыць перад вачыма прывычныя краявіды, есці звычную страву.

Увагу нашу прыцягнулі і стрэхі хлявоў ды паветак у Тынгызе — усе скрозь зялёныя. Некалі ў старых беларускіх вёсках гэтак жа зелянелі замшэлыя саламяныя стрэхі. Але тут на іх расце як і на зямлі, сапраўдная трава, хоць казу цягні туды падпасвацца, Мар'яна растлумачыла, што на кроквы спачатку рассцілаюцца шырокія пласты бяросты, а потым зверху кладзецца дзёрн, які пад дажджамі і прарастае высокай травою. Бяроста ж пад дзірваном не гніе (ці не таму, дзякуючы менавіта гэтаму прыроднаму матэрыялу, знаходзяць археолагі праз вякі і вякі захаваныя берасцяныя граматы?).

На развітанне фатаграфуем гаспадыню, якая дзеля гэтага пераапранаецца ў святочную сукенку. Грошай за пастой з нас не бярэ. Бывай, цётка Мар'яна!

**(Працяг у наступным нумары).**

**СЛОВА РАЗВІТАННЯ**

# АСІРАЦЕЎ АРКЕСТР



Пры жыцці Юрыя Міхайлавіча Яфімава гэтае фота не друкавалася. Можна было б і цяпер знайсці ў архіве фотарэпарцёра больш выразны кадр. Але мы выбралі гэты. Ён зроблены восенню 86-га. Ва ўсім свеце тады адзначаўся юбілей Д. Шастаковіча, і ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі быў наладжаны фестываль ягонай музыкі. Скончыўся канцэрт. Стомлены і яшчэ засяроджаны на музыцы Яфімаў (вось ён, злева) сышоў з дырыжорскага подыума падзякаваць музыкантам сімфанічнага аркестра і салістцы — вядомай Наталлі Шахаўской...

Любіў Яфімаў такія канцэрты, любіў складаныя, манументальныя праграмы. У рэпертуар Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР, на чале якога ён быў з 1971 г., часта ўключаў творы П. Чайкоўскага ды І. Брамса, Ф. Шуберта ды Д. Вердзі... «Праз рукі» Яфімава прайшлі многія сімфанічныя і аратарыяльныя прэм'еры беларускіх кампазітараў: Я. Глебава, Д. Смольскага, Л. Шлег, Г. Вагнера, В. Помазава і іншых творцаў. Пласцінкі з запісам балета «Ціль Уленшпігель» Я. Глебава — плён ягонай працы...

Вось і мінулай восенню, у Міжнародны дзень музыкі аркестр пад кіраўніцтвам Ю. Яфімава адкрываў філарманічны сезон насычанай праграмай. 53-гадовы маэстра, адзначаны нядаўна званнем народнага артыста БССР, выглядаў, як заўсёды, засяроджаным, напоўненым высокімі эмоцыямі. І не верылася, што страшная хвароба, якая год таму вымусіла дырыжора на нейкі час адысці ад спраў і змагацца за жыццё, адолее яго зусім хутка.

У першыя дні 1991 года музычная грамадскасць Беларусі развітвалася з Юрыем Міхайлавічам Яфімавым...

**Н. К.**

**МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ: ІМЁНЫ І ФАКТЫ**

# ПАВІНЕН НЕХТА АДКАЗАЦЬ...

У адным з вераснёўскіх нумароў газеты «Літаратура і мастацтва» за 1988 год быў апублікаваны верш рабочага Слонімскай камвольнапрадзільнай фабрыкі Рудольфа Пастухова «Курапаты». У гэтым вершы мяне асабліва ўразілі апошнія радкі:

> Ці не маёй матулі крык
> Слых рэжа з-пад лапаты?..
> Павінен нехта адказаць
> За «Курапаты».

Ужо вядомы галоўныя віноўнікі сталінскага генацыду. Знойдзем мы і непасрэдных выканаўцаў гэтых злачынстваў. Але як аднавіць імёны тых, хто з прастрэленымі патыліцамі, штабялямі і ўроскід, закапаны ў пясчаных ірвах вядомага цяпер на ўвесь свет лясного ўрочышча пад Мінскам?

Пры сустрэчы з аўтарам верша я спытаў у Рудольфа Аляксеевіча Пастухова: «Чым выкліканы гэтыя апошнія радкі?» Ён нахмурыўся і, мінуту падумаўшы, пацікавіўся: «Ёсць час? Паехалі да мяне...».

Больш за дзесяць гадоў я знаёмы з гэтым чалавекам. Ведаю яго як нягучнага, але вельмі своеасаблівага паэта, неадступнага праўдалюба, добрага сем'яніна і вернага таварыша. І ад таго, што я пачуў, седзячы за кубкам чаю ў гасцях у Р. Пастухова, яшчэ больш умацавалася мая павага да яго.

Паклаўшы перада мною стос папер з казёнными гербамі і штэмпелямі дзяржаўных устаноў, ён сказаў: «Гэта павуцінне маёй радаслоўнай, якую я не магу разблытаць больш за сорак гадоў». Першае, што я прачытаў, было пасведчанне аб нараджэнні, дзе сказана, што Пастухоў Рудольф Аляксеевіч нарадзіўся 28 верасня 1936 года ў горадзе Рыбінску Яраслаўскай вобласці. Маці: Пастухова Вера Аляксандраўна; бацька: (запіс адсутнічае).

Другое пасведчанне пацвярджала, што Маліноўскі Рудольф Мікалаевіч, нараджэння 28 верасня 1936 года, 14 верасня 1939 года ўсыноўлены Пастуховай Верай Аляксандраўнай з прысваеннем яму прозвішча Пастухоў, па бацьку Аляксеевіч, аб чым зроблены запіс за № 19. Абодва пасведчанні выдадзены 13 верасня 1960 года.

— А чаму адно і другое пасведчанні выдадзены менавіта ў 1960 годзе?—спытаў я.

З горкай усмешкай ужо немалады чалавек пачаў успамінаць сваё мінулае.

Аднойчы летам 1944 года, гуляючы на вуліцы са сваімі равеснікамі, ён штурхнуў дзяўчынку з суседскага дома. Яна з плачам кінулася скардзіцца сваёй маці. На вачах ва ўсіх суседзяў тая наляцела на хлопчыка, называючы яго «ворагам народа» і абяцаючы пасадзейнічаць, каб і яго расстралялі следам за бацькамі-злачынцамі.

Так Рудольф даведаўся аб тым, што маці ў яго не родная, а сапраўдныя бацькі—«ворагі народа». Дзіцячае сэрца агарнуў адчай. На дахах вагонаў і ў тамбурах паяздоў дванаццацігадовы хлопец уцякаў ад самога сябе. Яго лавілі. Змяшчалі ў дзіцячыя прыёмнікі. А затым адправілі ў калонію для малалетніх, дзе, як і ў школе, таксама прымушалі дэкламаваць: «Дзякуй таварышу Сталіну...». За тое, што адмаўляўся, — білі. Біць там умелі. Далонямі па вушах, пакуль не страціш прытомнасць. Маглі кінуць пад стол у коўдры і... не злавіць. Метадаў катавання было прыдумана многа. А яшчэ больш было катаў. Гэта і актывісты-парасткі, каго начальнік трымаў для падтрымання ўнутранага парадку, і брыгадзіры, і выхавальнікі, і надзіральнікі, і ўсе тыя, хто натхнёна паўтараў: «Дзякуй таварышу Сталіну...» Партрэты вусатага віселі ва ўсіх памяшканнях. Аднойчы хтосьці намаляваў «правадыру» рогі. Доўга і настойліва шукалі «мастака», пакуль не знайшлі...

У 1954 годзе Рудольфу паведамілі, што яго прыёмная маці памерла. Усе ніці з воляй былі абарваны. З азлобленага адзінокага ваўчаняці мог вырасці мацёры азвярэлы воўк. Але гэтага не здарылася. На ўсё жыццё Рудольф Мікалаевіч захаваў удзячнасць да палітычнага зняволенага Сцяпана Апалінаравіча Беладзеда, які ў лагерных умовах здолеў знайсці сцяжыну да сэрца юнака, добрым, ласкавым словам абнадзеіць, не даць загінуць кволай душы. Неўзабаве гэтая дружба з дарослым чалавекам адзавецца шчырымі, хай яшчэ няўмелымі паэтычнымі радкамі:



Р. Пастухоў у 1961 г.

> И только на «Печуйке» да
> на «Симе»
> Спасал меня от тех
> житейских бед
> Интеллигент отверженной
> России —
> Степан Аполинарьич
> Белодед...

З першых жа дзён пасля вызвалення Пастухоў пачаў устанаўліваць сваю радаслоўную, імкнучыся вярнуць сабе сапраўднае прозвішча — Маліноўскі. У Рыбінскім ЗАГСе яму выдалі два пасведчанні, а на пытанне: «Дзе я магу ўстанавіць лёс сваіх бацькоў?» адказалі: «У архівах МУС і МДБ...».

На ўсе запыты ў гэтыя ўстановы прыходзіў адзін і той жа адказ: «...не лічыцца», «...не значыцца». У 1961 годзе Рудольф Мікалаевіч падае заяву на імя Генеральнага пракурора. Але той нават не палічыў патрэбным яму адказаць. Потым пачалі прыходзіць адказы з камітэтаў дзяржаўнай бяспекі розных гарадоў краіны, куды пісаў Рудольф Мікалаевіч. Адказы з аднолькавым зместам: такі сярод рэпрэсіраваных не значыцца...

А магчыма, не ў тым баку шукалі? Адказаў няма. Таму з болем і нараджаюцца радкі: «Ці не маёй матулі крык...».

**Сяргей ЧЫГРЫН.**
г. Слонім.

НА СКРЫЖАВАННІ ДУМАК

# «Гульня ў карты» — НЕБЯСПЕЧНАЯ

Апошнім часам у газетах Літоўскай Рэспублікі змяшчаюцца карты Літвы, што ўтрымліваюць ладны кавалак тэрыторыі Беларускай ССР. Надрукавана такая карта і ў нумары «Голоса Литвы» (12.XI—18.XI.1990), які я набыў у кіёску ў цэнтры беларускай сталіцы. Яна падаецца з вялікім артыкулам «Усходнія межы Літвы», дзе падводзіцца тэарэтычная база пад такія вызначэнні.

Прыходзіцца канстатаваць, што беларускі і літоўскі народы стаяць перад сур'ёзным пытаннем аб вызначэнні граніцы. Суіснаваўшы разам у адной дзяржаве многія стагоддзі, беларусы і літоўцы здаўна ўспрымалі агульную тэрыторыю абодвух народаў як «сваю». Сёння ж Беларусь і Літва—два раўнапраўныя суб'екты міжнароднага права, і як дзве суверэнныя дзяржавы павінны вызначыцца наконт сумеснай мяжы. Будзем спадзявацца, што гэты працэс пройдзе ў рэчышчы шматвяковых сяброўскіх адносін паміж нашымі народамі.

Магчымыя разгалоссі пачынаюцца з рознай трактоўкі гісторыі Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага абодвума бакамі. Вось і на згаданай карце пад першым нумарам ідуць «усходнія і паўночныя граніцы літоўскай этнічнай тэрыторыі ў XIII ст.» Гэта «ядро Літвы часоў Міндаўгаса» і ёсць аб'ект спрэчак. Шчыра кажучы, мяне такая пастаноўка пытання збянтэжыла. Праводзіць паралель паміж падзеямі сямівяковай даўніны ў памежным пытанні — проста авантурызм. Тым больш, калі ўдакладніць, што «Міндаўгас» быў усё ж такі Міндоўгам.

Але гэтае абазначэнне межаў XIII стагоддзя спатрэбілася, каб паказаць «справядлівасць» «мяжы паміж Літвой і Савецкай Расіяй па Маскоўскім дагаворы ад 12.07.1920 г.» Паводле гэтага дагавора, таталітарны рэжым Расіі прызнаў за Літвой правы на Вільню, Гародню, Ашмяны, Свянцяны, Ліду і іншыя гарады. Такая мяжа мусіла праходзіць па лініі Браслаў, Паставы, возера Нарач, ля Маладзечна, Валожына, па Нёмане да Гародні і далей да Штабіна. «Заўважым, што гэта граніца амаль супадае з усходняй граніцай Літвы часоў Міндаўгаса»,—шматзначна заяўляе аўтарка артыкула.

...Пад час няўдалай для Саветаў вайны з Польшчай Маскве стратэгічна важна было перацягнуць наваствораную Літоўскую Рэспубліку на свой бок, альбо хоць бы дабіцца яе нейтралітэту. У такі момант усе тэрытарыяльныя запатрабаванні літоўцаў былі задаволены (тым больш, што на шляху да Сусветнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі межы былі часовая рэч). Такім чынам, Расія зняла з сябе адказнасць за лёс гэтай тэрыторыі. Што да Літвы, яна фактычна была ўцягнута ў канфлікт, бо прызнаныя за ёй землі атакаваліся Польшчай. Анекдатычны, фарысейскі характар гэтага папяровага Дагавора выявіўся ўжо на наступны год, калі паводле Рыжскага міру гэтыя землі прызнаваліся «спрэчнымі» паміж Літвой і Польшчай. Зноў жа на паперы. На самай справе (і гэта разумелі ўсе) яны адыходзілі пад Польшчу. Сёлета ў Літве з помпай было адзначана 70-годдзе Маскоўскага дагавора. Многім падаецца, што ён не толькі абараняе Літоўскую Рэспубліку ад тэрытарыяльных прэтэнзій, але й дазваляе пры патрэбе выставіць свае. Але, баюся, уся радасць ад юбілею застанецца на ўзроўні эмоцый. Дэ-юрэ вышэйзгаданы Дагавор ніяк не рэгулюе памежнае пытанне: беларускі бок яго не падпісваў і, вазьму смеласць сцвярджаць, выконваць не будзе. Пад ім няма ані подпісу БССР (другое абвяшчэнне, якое адбылося праз паўмесяца пасля яго заключэння), ані ўрада БНР (з якім Літва, дарэчы, мела дыпламатычныя адносіны). Непрыняцце ж двухбаковага пагаднення трэцяй краінай — звычайная з'ява ў дыпламатыі. Дастаткова сказаць, што той Дагавор не ўзяла пад увагу яшчэ ў 1921 г. Польшча, падпісаўшы Рыжскі мір.

Але насуперак логіцы, менавіта гэты Дагавор адыграў галоўную ролю ў стане сённяшняй беларуска-літоўскай мяжы.

Спасылаючыся на яго, Савецкі Саюз па настойлівай просьбе Літвы перадаў ёй частку патрабаванага плошчай 6.655 тыс. кв. км і насельніцтвам у 457 тыс. чалавек з Вільняй. Гэта адбылося паводле пагаднення ад 10.10.1939 г. «Усе прэтэнзіі дэлегацыі Літвы адносна занадта малой тэрыторыі Віленскага краю (для Літвы), адносна літоўскіх тэрыторый, што заставаліся за межамі Літвы, былі рашуча адмецены Молатавым. Літоўскай дэлегацыі растлумачылі, што Швянчоніс (Свянцяны.— **А. С.**) патрэбны вайсковаму кіраўніцтву Чырвонай Арміі, а што да прапануемае мяжы, дык кіраўніцтва Савецкага Саюза мусіць весці перамовы з кіраўніцтвам Беларускай ССР. Калі верыць Молатаву, дык яму ўдалося пераканаць некалькі чалавек «...з вярхушкі Савецкай Беларусі... перадаць столькі, колькі прапанавалі Саветы (СССР паводле Дагавора ад 10.10.1939 г. —**А. С.**), але што ён не можа ўзяцца за тое, каб пераканаць іх яшчэ больш павялічыць тэрыторыю, што перадавалася»,—цытую «Голос Литвы».

Перадаючы тэрыторыі Літве, СССР адначасова ўвёў у Рэспубліку войскі (так было прадугледжана Дагаворам). Вогнішча было раскладзена. Ужо былі падпісаны сакрэтныя пратаколы да пакта Молатава—Рыбентропа, Літва ў хуткім часе мусіла адысці да СССР, і перадача Віленшчыны Літве, а не Беларусі ніяк не памяншала тэрыторыю сацыялістычнага лагера.

Апошні этап фарміравання сучаснай беларуска-літоўскай мяжы прыпадае на савецкі перыяд літоўскай гісторыі. За «правільны гістарычны выбар» вырашана было павялічыць літоўскую тэрыторыю (як бачым, тэрытарыяльнае пытанне не было забыта). Пад «бурные, продолжительные» 1-ы сакратар ЦК КПБ Панамарэнка на пасяджэнні ВС СССР ад імя Прэзідыума ВС БССР прапануе далучыць да Літоўскай ССР Свянцянскі, часткі Воранаўскага, Відзаўскага, Гадуцішскага, Астравецкага, Радунскага раёнаў Беларускай ССР. Гэта адлюстравана і ў артыкуле 2 Закона аб прыняцці Літвы ў СССР: «Прызнаць прапанову ВС БССР аб перадачы саюзнай Літоўскай ССР вышэйпамянёных земляў».

Згаданае рашэнне было вынікам перамоваў 1—2 кастрычніка 1940 г. у Гародні паміж ЛССР і БССР. На іх «дэлегацыі Літвы ўдалося атрымаць Швянчоніс, Адуцішкіс, з вялікімі намаганнямі — Друскінінкай з прылеглымі літоўскімі вёскамі. Літве не былі перададзены Віджай (Відзы), Астравас (Астравец), Варонавас (Воранава), Пелеса—апілінкі з пераважным літоўскім насельніцтвам. Яны засталіся на тэрыторыі Беларусі (з беларускімі назвамі), хоць вярхоўным органам дзяржаўнай улады СССР было абяцана (?!) іх перадаць». На перададзеных жа землях, маўляў, «жыла абсалютная большасць насельнікаў літоўскай нацыянальнасці, яны былі перададзены Літве на аснове этнічнага прынцыпу. Зараз у большасці гэтых раёнаў тое ж становішча... Трэба адзначыць, што калі на перамовах 1940 года дэлегацыя Беларускай ССР так строга прытрымлівалася этнічнага прынцыпу, прызнала за Літвой Шальчынінкайскі раён, дык, значыць, у той час нацыянальны склад там быў іншы, чым сёння. Асабліва аб гэтым сведчыць гэтак званы «апендыкс» Дзевянішкес». Надзвычай доказна, праўда? Выклікае здзіўленне нелагічнасць аўтаркі артыкула (спадзяюся, яна выкладала сваю асобную пазіцыю). Замест таго, каб шкадаваць аб замалай колькасці перададзеных Літоўскай ССР земляў, варта было б падумаць аб праваздольнасці таго Дагавора наогул. Беларуская ССР вяла перамовы з Літоўскай ССР. Гэта адлюстравана і ў Законе аб прыняцці Літвы ў СССР: землі перадаваліся «саюзнай Літоўскай ССР». Сёння ж вярхоўным органам літоўскай улады заяўлена, што ЛССР была акупіраванай, неіснуючай дзяржавай. Такім чынам, вышэйзгаданы Дагавор паміж ЛССР і БССР аўтаматычна страціў сілу сёлета, 11 сакавіка, у дзень адраджэння Літоўскай Рэспублікі. Аргумент аўтаркі артыкула просты: «Тэрыторыі, перададзеныя Літве ў 1939 і 1940 гадах, з'ўляюцца часткаю (увага: «часткаю».—**А. С.**) той тэрыторыі, што была прызнаная за Літвой паводле Дагавора паміж Літвой і Расіяй ад 12 ліпеня 1920 года. Гэты Дагавор дзейнічае і зараз, ён не анулянаваны». Неправадзейнасць яго ў беларуска-літоўскіх адносінах разглядалася вышэй. Гэта падобна на тое, калі б урад СССР абгрунтоўваў свае права на тэрыторыю краін Балтыкі адпаведнымі пратаколамі пакта Молатаў—Рыбентроп. Думаю, літоўцам гэта не спадабалася б.

Такім чынам, магчымыя прэтэнзіі літоўскага боку да Беларусі цалкам беспадстаўныя, яны не грунтуюцца ані на дыпламатычных пагадненнях паміж двума бакамі, ані на этнічным характары мясцовага насельніцтва, ані на яго волі. Не выказаныя афіцыйна (у літоўскага боку, у адрозненне ад беларускага, хапіла разважлівасці), яны тыражуюцца праз сродкі масавай інфармацыі і, зважаючы на высокі ўзровень нацыянальнай свядомасці літоўскага народа, значна ўплываюць на фарміраванне грамадскай думкі ў суседняй рэспубліцы.

Стары Прэзідыум ВС БССР прыняў Заяву аб магчымых тэрытарыяльных прэтэнзіях да Літвы — нягледзячы на ўсю сваю некарэктнасць, яна мае пад сабой пэўны падмурак. З'явілася і ў нашым друку некалькі артыкулаў на гэтую тэму, але друкаваць «сапраўдныя карты» Беларускага гаспадарства — прабачце, да такога ў нас яшчэ не дайшлі.

Як беларускага грамадзяніна, мяне дужа абразіла выхадка «Голоса Литвы». Тым больш дзіўна гэта, калі ў рэдакцыйным савеце газеты, такія вядомыя асобы, як Авіжус, Вілкас, Пожэла... Памянёны артыкул — гэта не проста «гістарычны экскурс», ён яўны ківок на «недавырашанасць» памежнага пытання.




**1. Усходняя і паўднёвая мяжа літоўскай этнічнай тэрыторыі ў XIII ст. 2. Усходняя мяжа Вялікага княства Літоўскага пасля II падзелу Польска-Літоўскай дзяржавы (1793 г.). 3. Мяжа паміж Літвой і Савецкай Расіяй паводле Маскоўскага дагавора ад 12.07.1920 г. 4. Дэмакрацыйная (адміністрацыйная) лінія паміж Літвой і Польшчай у 1920—1939 гг. (пасля акупацыі Усходняй Літвы). 5. Літоўска-Савецкая мяжа паводле Дагавора ад 10.10.1939 г. 6. Тэрыторыя, вернутая Літве паводле вышэй указанага Дагавора. 7. Тэрыторыя, вернутая Літоўскай ССР ад 6.11.1940 г. 8. Тэрыторыя, прызнаная Літве Савецкай Расіяй паводле Дагавора ад 12.07.1920 г., але ўключаная ў склад БССР 1939—1940 гг. 9. Сучасная мяжа Літоўскай Рэспублікі.**

**(Карта і каментарый да яе перадрукаваны з газеты «Голос Литвы» ад 12.XI—18.XI.1990 г.).**

Безумоўна, пытанне беларуска-літоўскай мяжы існуе, і, па шчырасці, гэта мусяць і літоўцы прызнаць, у беларускага боку больш падстаў для незадаволенасці. Але ўсе праблемы трэба вырашаць за сталом перамоваў, са згоды мясцовага насельніцтва, памятаючы, што мы шмат стагоддзяў жылі разам і не перашкаджалі адзін аднаму. «Гуляць жа ў карты»—небяспечная справа.

**Аляксандр СТАРАВОЙТАЎ,**
**студэнт Мінскага інстытута замежных моў.**


ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры БССР.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара —33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ —33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ —33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ —33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА—33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ —33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС, Юрась ЗАЛОСКА—33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ —33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.





Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12